

Уршуля ШУБЗДА →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Тамаш САЕВІЧ з Кітая →5


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 14 (3334) Год LXV | Беласток, 5 красавік 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Беласточчына Туронкаў

Фота і тэкст **Міхася АНДРАСЮКА**

## ГАЙНАЎКА

З Гайнаўкі ў Трыпуцці кіламетраў семдзесят. На шляху Бельск-Падляшскі — Юхнавец-Дольны — Турасны-Касцельна. А яшчэ шмат вёсак і вёсачак. І паваротаў — налева, направа. Як у жыцці, калі ты не аматар хадзіць напрасткі, эканоміць хвіліны і свае — адбітыя ў часапрасторы — сляды.

На выездзе з Гайнаўкі тырчаць у неба каміны хімічнай фабрыкі. Дарэчы, ёсць у яе свая афіцыйная назва, не першая ўжо, паколькі мянялася колькі разоў. У 1921 годзе была гэта „Fabryka — Spółka Akcyjna w Hajnówce”, у 1939-1941 гадах, за савецкай уладай — „Гайновский химический комбинат”. А летам 1941 года прыйшлі немцы і „комбинат” перайменавалі ў „Chemische Fabrik in Hajnowka”. Пасля вайны фабрыка стала называцца „Zakłady Suchej Destylacji Drewna w Hajnówce”, крыху пазней — „Hajnowskie Przedsiębiorstwo Suchej Destylacji Drewna”. І апошняя назва, пасля прыватызацыі ў 1996 годзе гэта „Gryfskand” Sp. z.o.o Zakład Produkcyjny Węgli Aktywnych”. А вось прысвоеная народам мянушка „хімічная” застаецца і кожнаму тут яна зразумелая.

Да гайнаўскай „хімічнай” вярнуся крыху пазней. Цяпер мне трэба ў Трыпуцці. Жвава падыхвае матор і аўто бяжыць па смычы GPS-прыёмніка. Бяжыць пад наглядам нябачных спадарожнікаў, намечанымі раней дарожкамі. Няўжо ўсё яно так? І наш шлях таксама назначаны загадзя, ды нехта трымае вока на ім?

Кажам Трыпуцці і — міжвольна — думаем Туронак. Юрый, канешне. І не дзіва. Знакаміты гісторык, даследчык нашай навейшай мінуўшчыны, на трывала запісаўся ў свядомасці сучасных беларусаў. Але я спяшаю на сустрэчу з Міхалам Туронкам, малодшым братам спадара Юрыя і ягоным сынам Славамірам.

— Да нас наўрад ці давядзе GPS, — кажа праз тэлефон Славамір. — Лепш я пад'еду насустрач. Буду чакаць побач з чыгуначным пераездам.

Гадзінай пазней, калі следам за Славамíравай „шкодай”, цераз палі і пералескі дабяруся да дома нумар 73, прызнаю яму рацыю. Затое панадворак і драўляны дом пад высокімі дрэвамі глядзяцца як добразнаёмыя выразкі з гайнаўскіх краявідаў. У акне мільгае твар спадара Міхала, пераступаю парог, дзверы вядуць у прасторны салон з вялікім драўляным сталом у цэнтры.

У думках, міжвольна шукаю падабенства паміж братамі. Яно, канешне, ёсць. Падобны рост і сілуэт, паходка і тэмбр голасу. І яшчэ штосьці агульнае ў вачах, у позірку. Што? Ці не тая гуллівая іскрынка, як доказ цікавасці да ўсяго, што новае, пакуль незнаёмае?

— Гайнаўка? О так, важны для мяне горад, — твар спадара Міхала святлее, іскрынкі ў вачах набіраюць моцы. — *Zakłady Suchej Destylacji Drewna*, інакшай — Хімічная. Працаваў там, усё працоўнае жыццё ў гэтай фабрыцы, з першага дня да выхаду на пенсію. Трыццаць пяць гадоў.


Злева: Славамір, Тамара і Міхал Туронкі

Для маладых людзей, што мяняюць сёння працу як пальчаткі, бо, — як кажуць, — седзячы на адным месцы „прафесійна выгараюць”, тры дзясяткі гадоў на адной фабрыцы пабачацца не больш як прыкметай далёкай, незразумелай мінуўшчыны.

А як жа ён, народжаны ў Дукштах на Віленшчыне, патрапіў у Гайнаўку?

— Вельмі проста, — усміхаецца спадар Міхал. — У Гайнаўцы была фабрыка „хімічная”. Летам у 1944 годзе наш дом у Дукштах згарэў і восенню 1945 года мы пераехалі ў Польшчу, у горад Кентшын. Тут хадзіў у сярэднюю школу, закончыў яе і паступіў у Шчэцінскую палітэхніку на факультэт хіміі. Матуру я пісаў у 18 гадоў. Крыху рана, дзецюкаваты быў. Цяжкі быў першы год на студыях, вельмі цяжкі. Здаралася плакаць проста на вуліцы. Бадай у 1957 годзе прыехаў да нас Сакрат Яновіч з мэтай заснаваць гуртку БГКТ. Прыйшло крыху беларускай моладзі, быў там і я. А ўзначаліла наша невялікае аддзяленне ў Шчэціне Ніна Сац — у той час навучэнка школы фельчараў. Быў я ў яе нат крыху закаханы, — на адзін міг сінія вочы робяцца яшчэ больш сінімі. — А пасля яна закончыла медыцыну ў Беластоку і працавала лекарам у горадзе Голдап. А я пасля вучобы прыехаў у Гайнаўку. 9 студзеня 1959 года пачаў працу. Дырэктарам быў Яраслаў Дабжаньскі. Запытаў, дзе дакладна хачу працаваць — у офісе ці „на прадукцыі”. А я сказаў, што хачу пачаць як звычайны рабочы, каб лепей пазнаёміцца з фабрыкай. Год працаваў чорнарабочым, прайшоў усе прыступкі фабрычнай іерархіі, а гадоў праз тры стаў намеснікам дырэктара па тэхнічных пытаннях.

Дырэктар Дабжаньскі шмат разоў угаворваў, каб я ўступіў у партыю. А я не і не. Аднойчы паклікалі мяне на пасяджэнне мясцовай экзекутывы, паўгадзіны маглі. У рэшце рэшт адзін кажа: „А калі ксёндз запытае вас пра вайсковыя тайны, дык што вы яму скажаце?” Не ўгаварылі, не запісаўся. А логіка ў мяне была простая — або я добры спецыяліст, тады трымайце мяне на пасадзе, або не. Калі не — магу сысці. Пры чым тут партыя? Адпрацаваў да пенсіі. Дырэктары мяняліся, мне даводзілася заступаць іх пакуль не прыйдзе новы, але ніколі не стаў галоўным. Ці не з-за гэтай маёй прынцыповай беспартыйнасці? Мабыць.

Што засталося ў памяці ад першых гайнаўскіх дзён, месяцаў? Брукаваныя вулачкі, жыдоўскія домікі па галоўнай вуліцы, касцёл у бараку. Сярмяжныя ўмовы на фабрыцы, ніякага сацыяльнага абсталявання, заканчвалі працу і замурзанымі ішлі дамоў. Не было дзе памыцца. Рабочыя жылі ў бараках пабудаваных немцамі падчас Першай сусветнай вайны, калі пачыналася фабрыка. А хто яны, рабочыя? Мясцовыя і шмат, вельмі шмат людзей з навакольных вёсак. Працавалі цэлымі сем'ямі. Бэльтэр, Бандарук, Роля, Філіпюк, Баркоўскі — успамінаюцца прозвішчы. Вельмі цікавым чалавекам быў Кастусь Майсеня. Праўда, на „хімічнай” не працаваў ён. Крамы будаваў на Гайнаўшчыне, затым пачаў будаваць беларускі музей. Але пры гэтай пабудове я не хадзіў. Часу не было, праца, сям'я. А грашовыя ўзносы канешне даваў. Сёння час ад часу даводзіцца паехаць у Гайнаўку. Да лекараў, па справах, дом жа там застаўся. І заўсёды, калі бачу фабрычны комін, думаю: мая хімічная.

## ДУКШТЫ

Пра сваіх продкаў спадар Міхал кажа наступнае: „Мая мама Марыя Рэшаць нарадзілася ў Рушчанах на Беласточчыне. Былі ў яе тры браты і дзве сястры. Два браты гаспадарылі ў Рушчанах, трэці, Язэп быў ксяндзом. Закончыў семінарыю ў Рыме, прыехаў у Вільню і працаваў выкладчыкам у мясцовай семінарыі. Епіскапам у той час быў літовец Матулевічус, на жаль пасля яго прыйшоў арцыбіскуп Ялбжыкоўскі і той „рэзаў” усіх, хто не польскай нацыянальнасці. А што казаць пра дзядзьку Язэпа, які лічыў сябе свядомым беларусам і ніколі не хаваў сваіх поглядаў? Пайшоў у ссылку па вёсках. Некалькі гадоў бадзяўся па вясковых парафіях, затым з дапамогай знаёмых з'ехаў у Амерыку. Але раней, пакуль яшчэ працаваў у Вільні, паклікаў да сябе маю маму і яе сястру. Мама паступіла ў ліцэй для выхавацелек дзіцячых садкоў, закончыла школу, пачала працаваць. І там, у Вільні, пазнаёмілася з бацькам. А дзядзька Язэп застаўся ў Амерыцы да канца жыцця. Памёр у пяцідзясятыя гады. Продкі па бацькоўскай лініі выводзяцца з Браслаўшчыны. Тата Баніслаў закончыў віленскі універсітэт імя Баторыя, адбыў практыку ў Вільні і атрымаў дыплом доктара медыцыны. Але прытым быў таксама дзеячам беларускага адраджэння. Рэдагаваў часопіс „Наш шлях”, дзейнічаў у Беларускім сялянскім саюзе. Праўдападобна з-за таго і адправілі яго з Вільні ў Дукшты, дзе быў прызначаны раённым лекарам. Тата памёр, калі было мне тры гады, увосень 1938 года. Мама казала, што паехаў на лодцы да хворага на другі бераг возера, моцна застудзіўся і памёр. Не памятаю яго. Памятаю труну, дакладней — века труны абапёртае аб сцяну. І фатаграфія захавалася, дзе трымае мяне на руках. Пахавалі яго ў Старых Дукштах побач з касцёлам. Усе клопаты звязаныя з пахаваннямі ўзяў на сябе татаў сябра Тамаш Зан, бо мама моцна захварэла.

— Гэты Тамаш Зан унук Тамаша Зана, сябра Адама Міцкевіча, — удакладняе Славамір. — Як распавядаў дзядзька Юрка, Зан вельмі часта бываў у дзеда Броніся. Як мясцовая інтэлігенцыя яны трымаліся блізка, сябравалі. Што цікава, толькі ў Зана да вайны была аўтамашына. Адна на ўсе Дукшты.

— Падчас вайны Віленшчына прыпала літоўцам, — працягвае спадар Міхал. — Жылі там у асноўным палякі, беларусы, жыды. У Дукштах была адна толькі школа. Да вайны вучыліся там на польскай мове, калі прыйшлі немцы пачалося навучанне па-літоўску. Старэйшы брат Юрка пачынаў вучыцца на польскай, заканчваў на літоўскай. Я ў сем гадоў таксама пайшоў у гэту школу, ужо літоўскую. А дзеці на вуліцы жылі на некалькіх мовах, вывучалі мову адзін у аднаго — польскую, беларускую, літоўскую, расейскую.

— Дукшты... — голас спадара Міхала мякчэе, сціхае, вочы робяцца мокрымі. — Замала туды вяртаўся, адчуваю недасыт, не ўсё пабачыў, не вярнуўся на ўсе сляды

чытайце ☞ 9





# Каранавірус і адказнасць

Пандэмія каранавіруса ламае жыццё свету і звыклы ўклад на нашых вачах. Смяротная катастрофа ў такіх краінах як Італія і Іспанія, наступ пошасці па ўсёй Еўропе не могуць пакідаць абыякавым нікога, хто хоць крыху можа думаць і спачуваць іншым. Людзей усё больш ахоплівае страх перад неадхільным наступам мору, які надзвычай цяжка спыніць. Страх за сваё жыццё, за жыццё сваіх блізкіх, асабліва старэйшага пакалення. Страх і перад наступнасцю. Сітуацыя тым больш жахлівая, што ніхто дагэтуль не ведае сапраўднай прыроды гэтага COVID-19. Ніхто не ведае, якія генетычныя наступствы ён выкліча ў арганізмах тых, хто ім заразіўся і нібыта вылечыўся.

У Італіі і Іспаніі колькасць захварэўшых дасягнула такой велічыні, што хворых, якіх тысячамі прывозяць у шпіталі, сартуюць нібы бульбу — на тых, каго яшчэ ёсць шанц ратаваць і на тых, каго проста пакідаюць паміраць. Менавіта такі дзеяслоў „сартаваць" гучыць у выпусках навін! І гэта новая рэальнасць, забытая насельніцтвам планеты з часу Другой сусветнай вайны. На вайне нават прасцей — там пераважна зразумела, дзе вораг, а дзе свае, дзе фронт, а дзе няма баявых дзеянняў. Дзе трэба ісці ў бой, а дзе можна перадыхнуць. А тут невядома — калі, дзе і з кім можа прыйсці гэты смяротны вірус.

Сярод розных ацэнак і называння прычын узнікнення і распаўсюду па ўсім свеце смяротна небяспечнай хваробы дастаткова многа як звышнатуральных, так і канспіралагічных версій, гіпотэз з тлумачэннямі дыяпазонам ад нябеснай кары да прымянення біялагічнай зброі. Аднак вельмі мала гаворыцца пра адказнасць дзяржавы, з якой пайшоў гэты смяротны вірус. Відавочна, што Еўрасаюз, а да нядаўняга часу і ЗША не даацэньвалі прэтэнзіі Кітая на сусветную гегемонію і валоданне большай часткай зямнога шарыка. Характэрна і тое, што як толькі палітыка рэспубліканскай адміністрацыі ЗША, скіраваная на абарону эканамічных інтарэсаў амерыканцаў, пачала прыносіць свой плён, а гаспадарка Кітая ўваходзіць у крызіс, і здарыўся гэты выбух смертаноснай эпідэміі. Характэрна, што Паднябесная імперыя параўнальна хутка прайшла пік эпідэміі. Гэта можна растлумачыць жорсткімі каранціннымі мерамі і жалезнай дысцыплінай насельніцтва, а можна падумаць і пра тое, што кітайцы маюць вакцыну супраць COVID- 19. А вось тое, што кітайскае кіраўніцтва дастаткова працяглы час ад усяго свету хавала маштаб пагрозы не выклікае ніякіх сумневаў і ёсць па сутнасці фактам. Амерыка ўжо зрабіла заяву наконт гэтага. Кіраўніцтва Еўрасаюза не зрабіла і не зробіць. Ніякія міжнародныя арганізацыі і структуры, кшталту канчаткова дэградаваўшай ААН, не заклічуць да адказнасці вінаватых у хаванні інфармацыі.

А цяпер крыху халоднай статыстыкі. У Кітаі ад эпідэміі памерла каля 3 300 чалавек. Гэта з 1 мільярда 400 мільёнаў чалавек. У маштабах такой густанаселенай вялізнай краіны па сутнасці не больш, чым у час штогадовых хвароб на звычайны грып. А ў Італіі ўжо памерла 8 300 (і працягвае па паўтысячы кожныя суткі гінуць) з 60 мільёнаў насельніцтва. Адчуваеце розніцу?!

Таксама можна ўпэўнена прагназаваць, што пасля піку пандэміі і, спадзяемся, ліквідацыі яе сумных наступстваў, практычна ўсе еўрапейскія краіны будуць перажываць сур'ёзны эканамічны крызіс, а некаторыя дзяржавы магчыма і заняпад. Адначасна кітайская эканамічная экспансія зноў пачне нарастаць і падпарадкоўваць усё новыя тэрыторыі. А пакуль Кітай разам з іншымі таталітарнымі дзяржавамі — Расеяй, Паўночнай Карэяй, Іранам выступілі за здыманне ў дачыненні да іх эканамічных санкцый. Маўляў, гэтыя санкцыі замінаюць урадам змагацца з эпідэміяй. Нібыта для гэтых урадаў чалавечае жыццё нешта значыць...

У сувязі з пагрозай эпідэміі дастаткова сціпла прайшло на мінулым тыдні ў Беларусі адзначэнне чарговых угодкаў абвяшчэння БНР. Аднак Дзень Волі ў розных, хоць і зразумела чаму сціслых формах, святкаваўся і адзначаўся ў Гродне, Брэсце, Мінску, Глыбокім, у Пінскім і Аршанскім раёнах, у Лідзе, Слоніме, іншых гарадах і меншых мясцовасцях краіны. Усе мы, пакуль дыхаем, спадзяемся. І марым пра вольную і здаровую краіну.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Няма больш памылковага

Нічога страшнага, калі хтосьці проста балбоча глупствы! Горш, калі ён робіць гэтак жа па-дурному, як кажа.

Даволі легкадумнымі і, безумоўна, жартаўлівымі былі парады прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які пасля няўдалых для Беларусі гульняў у Пхеньяне рэкамендаваў спартсменам сваёй краіны падбадзёрыцца сальцам з чорным хлябцом. Такое меню мела б прывесці да поспеху і да залатых медалёў. О, спартыўны эксперт! Увесь свет задрыжаў ад яго слоў... Прабачце, заіржаў ад захаплення. Але нікому не было да смеху, калі высветлілася, што прэзідэнту падабаецца роля эксперта ў кожнай сферы. Таксама эпідэміялагічнай. Яшчэ некалькі гадоў таму Аляксандр Лукашэнка змагаўся з п'янствам, зачыняў крамы са спіртнымі напоямі, абцяжарваў грамадзянам пакупкі высокапрацэнтнага алкаголю і па праве сцвярджаў, што з-за яго злоўжывання чалавечая галава робіцца пустая. Толькі няправільна за гэта ўзяўся. Але гэта ўжо іншая гісторыя. Сёння, у эпоху інфекцыйнай пандэміі, прэзідэнт звяртаецца да сваіх суайчыннікаў, каб пілі гарэлку як мага часцей, закусвалі яе салам, а лішак градусаў і халестэрыну выпацець у лазні. Паводле яго слоў, гэта лепшы спосаб барацьбы з вельмі заразным каранавірусам.

На жаль, прэзідэнт і гаворыць, і робіць гэта так, як быццам яго галава была парожняя. Каранцінны лад жыцця, якому практычна падвергліся ўсе краіны свету, на Беларусь, відавочна, не распаўсюджваецца. Гэта асабістае рашэнне прэзідэнта Лукашэнкі. Грамадзяне Беларусі могуць самаадвольна збірацца ў любых месцах і ў любым ліку, пры ўмове, што не будуць гэта арганізаваныя антыўрадавыя акцыі пратэсту. Як ні дзіўна, пакуль няма масавых выступленняў, хаця б таму, што ўрад Беларусі не выяўляе сапраўднай эпідэміялагічнай пагрозы. Ні беларуская апазіцыя, ні нават звычайны здаровы чалавечы розум, які хай бы быў проста дэкаратыўнай метафарай, у якую чалавечы род строіцца з уласцівай сабе напышлівасцю ад пачатку свету. Прасцей кажучы, я лічу, што як від чалавек такі ж як напышлівы, так і дурны, пра што сведчаць шматлікія прыклады нашага калектыўнага самазнішчэння: структурны голад, нягледзячы на глабальную празмернасць прадуктаў харчавання, беднасць большасці, нягледзячы на незлічоныя багацці меншасцей, несправядлівае размеркаванне ўсіх тавараў, нягледзячы на заклікі да ўсеагульнай справядлівасці, штодзённае бяспраўе, нягледзячы на існаванне непахіснага закону, і, нарэшце, войны, нягледзячы на ўсхвальванне сусветнага міру...

Гэтак аднолькава ва ўсім свеце, як і ў Беларусі. Таму што людзі паўсюль аднолькавыя. Да апошняга моманту сусветныя ўрады не змаглі прыняць перадпандэмічных рашэнняў. У Беларусі па-ранейшаму працуюць кавярні і дыскатэкі і нават дапускаюцца вялікія калектыўныя спартыўныя мерапрыемствы. Грамадскія лазні і, вядома, саўны даступныя грамадскасці. Больш за тое, яны поўныя аголеных, нібыта ў Раі, людзей. Здаецца, Беларусь — шчаслівы востраў, пазбаўлены каранавіруса. Каб хутка не стаў ён і бязлюдным востравам! Пакуль у афіцыйных паведамленнях урад прадстаўляе грамадству вобраз поўнага санітарнага кантролю. І нават калі ходзяць чуткі пра выпадкі захворванняў, яны трактуюцца як „прывалочаныя з замежжа", як адзінкавыя інцыдэнты, якія эфектыўна ліквідуюцца дзяржаўнымі службамі. Толькі ці яны падрыхтаваны да найгоршага варыянту — лагістычна, арганізацыйна, матэрыяльна?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Нашае і важнае

Жыццё ў час заразы моцна скарэктавала нашы штодзённыя справы і дзеянні. Не інакш адбылося з адзначэннем Акту 25 Сакавіка — 102 гадавіны з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. На Беласточчыне традыцыя адзначэння 25 Сакавіка існуе безупынна з паловы 1980-х гадоў, але зараз яна сутыкнулася з зусім незвычайнымі выклікамі. Звычайна мы заранёў мелі падрыхтаваную праграму і лагістычнае забеспячэнне мерапрыемства і нашых гасцей-выканаўцаў. У гэтым годзе на нашых святкаваннях меў выступіць знакаміты мінскі фольк-рок калектыў «Тутэйшая шляхта», слава якога вядомая далёка па-за межамі Беларусі. Успышка каранавіруса збіла нашы планы і мы яшчэ да афіцыйных урадавых забарон аднагалосна вырашылі, што не можам рызыкаваць здароўем людзей з Беласточчыны і гасцей з Беларусі. Тады з'явіўся варыянт, які прадугледжваў перанесці святкаванні менавіта ў прамы эфір Беларускага Радыё Рацыя, дзе гасцямі мелі быць па гістарычнай дзялянцы Алесь Бяляцкі, а з канцэртам у радыйнай студыі меў выступіць Эдуард Акулін. Адбылíся тэхнічныя падрыхтоўкі і... пачала абавязваць забарона ўезду чужаземцаў у Польшчу. Потым адпадалі і іншыя варыянты ў сувязі з абвастрэннем эпідэміялагічнага рэжыму, які дазваляе прабываць разам толькі дзвюм асобам, у тым ліку планаванае намі ўскладанне кветак на магілах беларускіх дзеячаў родам з Беласточчыны. Аднак фармат святкаванняў, дзякуючы Радыё Рацыя, аказаўся рэальным. Спецыяльная святочная музыка ўвесь дзень, жывы эфір, прысвечаны гэтай гадавіне, пасланне старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, знакамітая, аўтарская перадача Віктара Сямашкі, прысвечаная беларускім гімнам і прамая трансляцыя ў эфіры і на сайце радыё канцэрта Лявона Вольскага непасрэдна з Мінска, нягледзячы на ўсе забароны дня, дала пачуццё еднасці і супольнасці адчування так важнай гістарычнай падзеі. І менавіта традыцыйныя букеты бел-чырвона-белых кветак, уручаных у час беластоцкіх святкаванняў, належаць проста ўсім, хто думкамі, учынкамі, словамі, эсэмэскамі ці тостамі павіншавалі адзін аднаго з гэтым святам. Бо такім чынам мы дарылі таксама ўзаемна і духоўныя колеры, сімвалы Беларускай Народнай Рэспублікі. Формы святкавання ў гэтым годзе змяніліся, дзякуючы віртуальнаму свету, а перш за ўсё незалежным СМІ. Сітуацыя ёсць так дынамічнай, што мы не можам нічога з упэўненасцю сказаць, як будзем адзначаць свята праз год. Дакладна можна сказаць толькі тое, што 102-я ўгодкі абвяшчэння БНР адзначылі беларусы ва ўсім свеце. І гэта доказ таго, што мы тое зрабілі і мы існуем. Нам трэба мець сілы, каб было за што і за каго змагацца, каго і што ўшаноўваць. Сёння мы можам нашымі думкамі, ідэямі быць у свабодным, медыйным эфіры. І гэта таксама перамога ідэй Беларускай Народнай Рэспублікі як незалежнай беларускай думкі. Можам распавядаць пра БНР для дзясяткаў тысяч людзей дзякуючы радыё, дзякуючы іншым медыям, інтэрнэт-прасторы. Галоўнае, што мы памятаем і адзначаем самае важнае, жыццятворнае палітычнае здарэнне пачатку XX стагоддзя — вяртанне Беларусі, як незалежнай дзяржавы, на мапу Еўропы і свету. Гэта тая падзея, якая адбылася нягледзячы на ўсе абставіны, на ўвесь трагізм Першай сусветнай вайны і тадышніх страшлівых эпідэмій тыфу ці грыпу-іспанкі. Мы не вечныя ў гэтым свеце, але захаваць памяць пра Бацькаўшчыну — гэта той запавет, які кладзецца на нас абавязкам. У нашай гісторыі быў крывавы тэрор у Савецкім Саюзе, была забарона святкавання ў Польшчы, нямецкая акупацыя, зноў савецкі перыяд, калі існавала забарона на тое, каб гаварыць пра БНР, але ўсё адно памяць захоўвалася. Кожнае пакаленне мае свае гістарычныя пункты адноснасці. Нашы прадзеды перажылі бежанства, нашы дзяды і бацькі — Другую сусветную вайну і перыяд пасляваенай дзейнасці польскага падполля, маё пакаленне — ваеннае становішча 1981 года, Чарнобыль і дэмакратычныя перамены 1989 года. Што запомніцца пакаленню маёй дачкі? Напэўна пандэмія каранавіруса, якая стане яго псіхалагічна-грамадскім выклікам і выпрабаваннем. Погляды людзей на сваё быццё ў гэтым свеце і жыцці напэўна зменяцца, а пераасэнсаванне каштоўнасцей — перад намі.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Усе дзеці ў нас вывучаюць беларускую мову!



Уршуля ШУБЗДА — нарадзілася ў Старой Хадароўцы. Закончыла Ліцэй імя блаславёнага ксяндза Ежы Папялушкі ў Сухаволі, а ў 2015 годзе — беларускую філалогію на Універсітэце ў Беластоку. Працуе журналісткай „Ніві" і Беларускага Радыё Рацыя. З 2018 года працуе таксама настаўніцай беларускай мовы ў Непублічнай пачатковай школе ў Залуках.

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Выпадкова:-) Але заўсёды зайздросціла настаўнікам беларускай мовы таго, што могуць рэальна паўплываць на ўзровень ведання роднай мовы і культуры маладымі людзьмі.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Можа не ідэалам, але захапляюся дакладнасцю Валі Бабулевіч, крэатыўнасцю Аліны Ваўранюк, энергіяй Асі Марко ці спакоем Янкі Карчэўскага. Кожны настаўнік беларускай мовы мае напэўна свае дыдактычныя „жамчужыны", што дапамагаюць у вывучэнні роднай мовы. На самой справе настаўнік беларускай мовы, гэта цяжкая прафесія — не так даўно я гэта зразумела.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Я працую настаўніцай усяго паўтара года. Таму ў так кароткім часе не паспела яшчэ наладзіць шчыльнейшага супрацоўніцтва з іншымі школамі. Аднак нашы вучні ахвотна прынялі запрашэнне на „Беларускую дыктоўку", якую ладзіць Іаанна Марко з НПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Безумоўна Аб'яднанне АБ-БА. Маю тут на ўвазе выдадзеныя імі падручнікі і астатнія дапаможнікі. Таксама дзякуючы „Ніве" і Радыё Рацыя магу зацікавіць вучняў усебаковымі ведамі пра беларусаў.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Можа гэта невялікія праекты, але ў рамках журналісцкага кружка мы пачалі акцыю **"На два крокі"**, у рамках якой запрашаем цікавых людзей з ваколіцы. Акцыя мае паказаць, што вывучаем мову, якой карыстаюцца нашы суседзі, бацькі, бабулі і адначасова можам пазнаёміцца з сапраўды цікавымі людзьмі.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Прымаем удзел ва ўсіх конкурсах, ладжаных беларускімі арганізацыямі. Нашы дзеці любяць конкурсы.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Думаю, што так. Наша школа — спецыфічная. Вядзе яе грамадскае вясковае аб'яднанне. Мясцовыя людзі згуртаваліся, каб ратаваць школу ад закрыцця. Таму ў нас у школе вельмі блізкае супрацоўніцтва па лініі настаўнікі-бацькі-вучні. Невялікая школа з'яўляецца добрым месцам на супольныя дзеянні. Нягледзячы на веравызнанне і нацыянальнасць, усе дзеці ў нас вывучаюць беларускую мову. Без добрай волі бацькоў не было б гэтага.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Складанасць. На пачатку маёй працы некаторыя вучні проста гаварылі: будуць праверкі, выпішамся! Але зараз думаю, што нам удалося выпрацаваць кампраміс. Вельмі я цешылася, калі глядзела, з якім заангажаваннем выступалі яны ў пастаноўцы п'есы пра каляднікаў на беларускай мове з нагоды святкавання ў нашай школе Раджджаства Хрыстовага. Умела і эмацыянальна ўсё зайгралі.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Па-рознаму. Часам запланаваныя рэчы натуральна заступаем іншымі, якія вынікаюць з хады падзей ці працы вучняў.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Сёлета лаўрэаткай стала Юля Грэсь. Гэта вельмі таленавітая вучаніца, якая жыва захопленая беларускай мовай і культурай. Думаю, што ўплыў на гэта мела таксама яе прысутнасць на летніках Сустрэчы „Зоркі". Юлька зараз стала лаўрэаткай, а ў будучыні хоча яшчэ стаць журналісткай.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Зараз так. Прынамсі для малодшых вучняў. Яны вельмі ўцешыліся з новых сшыткаў практыкаванняў і падручнікаў. У сваю чаргу гэта цешыць настаўніка, калі бачыць, як школьнікі могуць захапляцца кніжкамі:-)

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— „Лемантар" і „Кругагод".

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Уладзімір Арлоў. Падабаецца мне, як аўтар паказаў італьянскі перыяд жыцця і творчасці Міколы Гусоўскага ў аповесці „Час чумы". Таксама падабалася мне кніжка „Ордэн белай мышы", якую атрымала ад самога аўтара. У настаўніцкай працы вельмі цаню таксама кніжку „Адкуль наш род" — неаднойчы я пераканалася, што спосаб, у які Уладзімір Арлоў прадстаўляе гісторыю Беларусі для наймалодшых, сапраўды ўспрымальны і перш за ўсё цікавы.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Само пачала чытаць „Горад адзін, успаміны розныя" Руслана Кулевіча. Гэта кніжка ўспамінаў людзей з памежнай і блізкай мне па сэрцу і душы Гародні.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Вядома. Для мяне самым найважнейшым у працы з дзецьмі з'яўляецца журналісцкі кружок і факт, што нашы вучні сталі карэспандэнтамі і чытачамі „Зоркі". Яны вельмі любяць чытаць пра сябе і сваю школу.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Напэўна было гэта „Басовішча".

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Не з усімі, але з часткай размаўляю.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Пакуль такога яшчэ ў мяне не было. Відаць, усё перада мною.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Хіба кожнаму настаўніку-пачаткоўцу найбольшай праблемай з'яўляецца ўваход у адміністрацыйна-дакументацыйныя абавязкі. У гэтым навучальным годзе стала я выхавацелькай сёмага класа і павялічыўся абсяг адказнасці не толькі справаводнай.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Мае выпускнікі гэта чатыры асобы, якія зараз вучацца ў сярэдніх школах у Беластоку:-) Можа стануць вядомымі ў будучыні...

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Атрымала адну ўзнагароду ад нашай дырэктаркі — вельмі прыемна.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Самі вучні. Яны спантанныя, натуральныя. Гэта сапраўды інспіруе і думаю, што было штуршком для розных дзеянняў у школе цягам маёй кароткай працы.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Іх шмат. Напэўна вельмі добра ўспамінаю нашы экскурсіі ў Беларусь. Прыемна глядзець, калі нехта захапляецца краінай, якую і ты любіш. Дзякуючы падтрымцы пані дырэктар і бацькоў, мы пабывалі ўжо ў Гародні, Берасці, беларускай частцы Белавежскай пушчы, ці ў апошнім часе ў Гайнаўцы. Таксама нашы вучні супольна з навучэнцамі з іншых школ Падляшша, супрацоўнічаючы з Культурным цэнтрам Беларусі ў Варшаве, маглі пабываць у самім Мінску на навагоднюю ёлцы і адпачываць на канікулах у лагеры „Зубронак" на возеры Нарач. Экскурсіі па гістарычных мясцінах і замках Беларусі гэта ўсім незабыўныя ўспаміны.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Дзякуючы рэдакцыі „Нівы" ў класе, дзе вяду навучанне беларускай мове, вісіць Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Сёння будучыня кожнага няпэўная. Думаю, аднак, што беларуская культура настолькі цікавая і багатая, што прыцягне да сябе ўвагу чарговых пакаленняў. Тады павінна быць добра.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Адказваючыся ад бацькоўскай мовы, адказваешся ад сваіх бацькоў

**12 кастрычніка 2019 года свет пабачыла кніга «Мова проста» аўтарства віцэ-старасты Сакольскага павета Юркі Беламызага і Альжбеты Вярбіцкай-Пятроўскай. Прэзентацыя прайшла ў Гарадской управе ў Дуброве-Беластоцкай, дзе прысутнічалі прадстаўнікі ўлад Дуброўскай гміны і Сакольскага павета. У публікацыі змешчаны словы ад рэдактараў, гісторыя гміны Дуброва-Беластоцкая, гісторыя каталіцкага касцёла і праваслаўнай царквы. Можна тут таксама знайсці выказванні прадстаўнікоў мясцовай улады наконт «простай мовы». Другая частка публікацыі змяшчае спісаныя размовы з жыхарамі гміны на «мове простай». На вокладцы кнігі надрукаваны фрагменты рэцэнзіі навукоўцаў. З просьбай ацаніць публікацыю «Ніва» звярнулася да найбольшага аўтарытэта сярод мовазнаўцаў, якія займаліся дыялекталогіяй на польска-беларуска-ўкраінскім памежжы, прафесара Міхала Кандрацюка.**



Прафесар Міхал Кандрацюк

**— Як Вы, спадар прафесар, ацэньваеце кніжку з навуковага пункту гледжання?**

— Ідэя збіраць простую мову — добрая ідэя, а спосаб яе рэалізацыі можа атрымацца па-рознаму. Паколькі ніхто з рэцэнзентаў асабліва не вёў даследаванняў Беласточчыны дык яны не маглі фактычна добра ацаніць, бо яны самі не былі на гэтай тэрыторыі. Лёгка можна гэта праверыць на прыкладзе «Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны», які выйшаў ужо ў дзесяці тамах. Калі б мы хацелі дакладна вызначыць, якія прыклады добрыя, трэба было б параўнаць дыялекталагічны матэрыял з кніжкі з інфармацыямі ў атласе. Я заўважыў некалькі памылак. Гэта дробныя памылкі, але ніхто з рэцэнзентаў не змог гэтага выявіць. Напрыклад, прафесар Станіслаў Дубіш, спецыяліст па польскай дыялекталогіі, якога добра ведаю. Разам мы супрацоўнічалі ў Акадэміі навук — ён з'яўляўся старшынёй, а я старшынёй Інстытута славістыкі.






Юрка Беламызы і Альжбета Вярбіцкая-Пятроўская

**— Значыць, сярод рэцэнзентаў няма нікога, хто даследаваў беларускія гаворкі?**

— Так. Міраслаў Янковяк сапраўды супольна з Нінай Баршчэўскай выдалі падручнік, але не буду наконт яго выказвацца. Адным словам так: добра, што гэта робяць і трэба заахвочваць іншых, каб пачалі рабіць такую працу. Добра было б, каб асобы, якія бяруцца за гэтую работу, раней паглядзелі наш атлас.

**— У час прамоцыі кніжкі, якая прайшла ў гарадской управе ў Дуброве-Беластоцкай, аўтары публікацыі падкрэслівалі, што яна будзе выдатнай крыніцай для будучых навукоўцаў і даследчыкаў. На Вашу думку сапраўды так будзе?**

— Можа не гэтая кніжка, але могуць браць з яе прыклад іншыя і яшчэ раз сабраць матэрыял больш паспяхова, адэкватна і дакладна. Напэўна ўсё, што застаецца ў друку, важнае для чарговых пакаленняў і для нас таму, што ўжо на працягу апошніх шасцідзесяці гадоў, якія прайшлі ад даследаванняў для атласа, вельмі многа змянілася. Я пісаў артыкул пра прафесара Станіслава Глінку, які паходзіў з-пад Астралэнкі, з вёскі Янкі-Млодэ. Менавіта ён большасць свайго жыцця прысвяціў даследаванню беларускіх гаворак. Ён сам па адукацыі быў матэматыкамі і фізікам і сам вывучыў беларускую мову.

**— Сам загаловак ужо інфармуе, што кніжка тычыцца «мовы простай». Аднак у публікацыі ні разу не з'яўляецца інфармацыя, што гэта дыялект беларускай мовы, і ніхто яе так не называе. Вас гэта не здзіўляе?**

— Могуць сабе не гаварыць, але кожны мудры, хто хаця крыху арыентуецца ў дыялектах, будзе ведаць, што гэта не польскі дыялект, а ўсходнеславянская гаворка. Саюз украінцаў Падляшша лічыць, што большасць дыялектаў за Заблудавам, гэта гаворкі ўкраінскія, а гэта няпраўда. Гэта першыя рускія гаворкі і яны мелі супольныя рысы (беларускія, украінскія і польскія). У Польшчы выступаюць украінскія гаворкі — яны такім клінам уваходзяць да Кляшчэляў, Чаромхі. Гэта частка даўнейшага Брэсцкага павета.

**— Таму, калі гаварыць пра сакольскі дыялект, які вельмі набліжаны да літаратурнай беларускай мовы, магло б здавацца, што гаворка, пра якую пішуць аўтары, не пакідае сумненняў.**

— Няма сумненняў, але што тут далёка шукаць. Светлай памяці прафесар Багуслаў Наваейскі таксама лічыў іх польскімі гаворкамі. Калісьці ён, будучы яшчэ магістрам, меў свой даклад і выказаўся, што трэба пашукаць у слоўніках і праверыць дакладна гэты дыялект. На гэтыя словы прафесар Глінка адказаў: *Пан калега, паедзьце кіламетр за Саколку і там сустрэнеце беларускую гаворку, не трэба нават слоўнікаў адкрываць* (смех).

**— Што думаеце наконт ідэі стварэння слоўнікаў. Мікалай Урублеўскі тым займаўся і Ян Петручук таксама апісаў гаворку Курашава. Можа варта было б падумаць аб сакольскім слоўніку?**

— Петручук можа і рабіў, але не выдаў. Ёсць і іншыя думкі, напрыклад, каб некаторыя вёскі былі прыкладам нашай мовы. Вядома, што літаратурная мова — штучна выбрана з розных дыялектаў. Літаратурная мова не існуе, ёсць дыялекты, на аснове якіх паўстала літаратурная мова. Мова мяняецца, няма пастаянных моў. Формы, звычаі — цячэ гэта ўсё як рака.

**— У гэтай кнізе прадстаўнікі сакольскай улады прызнаюцца да гэтага, што ў іх дамах тая мова, мова проста, гучала, а некаторыя нават і па сёння ёю карыстаюцца. Думаеце, што гэты факт таксама сведчыць аб нейкай ментальнай эвалюцыі?**

— Чаму каталіцкія ксяндзы, якія гаварылі пропаведзі на сваёй мове, не падабаліся самім вернікам? З палітычнага боку было так, што беларускамоўных ксяндзоў высылалі ў мясціны, дзе не было гэтай мовы. Усё-такі вельмі добра, што такія кнігі выходзяць. Людзі павінны гэта рабіць, але добра было б, калі б былі да гэтага падрыхтаваныя. Падрыхтаваныя тымі, якія ведаюць як гэта рабіць і апісваць. Усё-такі сам факт, што людзі хочуць ведаць сваю мову, вельмі важны. Тыя, якія забываюць пра свой радавод, пра мову сваіх бацькоў і дзядоў, неадказныя. Калі адказвацца ад бацькоўскай мовы, гэта тое ж, што адказвацца ад сваіх бацькоў. Вельмі добра аддаюць гэта вершы Віктара Шведа «Я — беларус» і Алеся Барскага «Беластоцкі край».

**— Дзякую за размову.**

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

# Усе хочуць ведаць, як Кітай справіўся з эпідэміяй каранавіруса

З журналістам **Тамашам Саевічам**, карэспандэнтам Польскага Радыё ў Кітаі гутарыць Ганна Кандрацюк.

**— Два дні таму TVP паказала турыстаў на Вялікай кітайскай сцяне і паведаміла, што ў Кітаі ўсё вяртаецца да нармальнасці? А як гэта выглядае ў Тваёй ацэнцы?**

— Я лічу, што прынамсі праз бліжэйшы час той «нармальнасці», якую ведаем з часоў да эпідэміі, нідзе не будзе. Зараз сітуацыя ў Кітаі стабілізуецца. У параўнанні з лютым значна паменшала колькасць інфекаваных людзей. Цяпер, гэта прыблізна 50 асоб у дзень. Большасць гэта кітайцы, якія ў сувязі са складанай сітуацыяй у Еўропе ці ЗША вярнуліся на радзіму.

Вялікая сцяна гэта адзін з сімвалаў Кітая, так што часовае яе адкрыццё мае прамовіць як сігнал для кітайцаў і для свету, што ўсё вяртаецца да нармальнасці. Але трэба памятаць, што ў сённяшніх часах «нармальнасць» гэта, напрыклад, магчымасць выйсці з дому. У Пекіне ад 10 да 20 разоў у дзень мераюць людзям тэмпературу. Пры ўваходзе ў хату, пры ўваходзе ў офіс... Усе крамы і рэстараны абавязаныя мераць тэмпературу людзям, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі.

**— Памятаеш той момант, калі Ты зразумеў пагрозу эпідэміі? Як на пачатку людзі ставіліся да праблемы каранавіруса?**

— Зразумеў даволі хутка. 19 студзеня я ляцеў з Пекіна ў Токіо на візіт прэм'ер-міністра Польшчы. І я тады быў адной з нешматлікіх асоб у самалёце, якія ляцелі ў масачцы і рукавіцах. Людзі ў Кітаі на пачатку былі вельмі занепакоеныя. З аднаго боку многія памяталі, якім цяжарам для краіны была эпідэмія SARS у 2003 годзе. З другога — ужо неафіцыйна гаварылася, што кітайскія ўлады раней ведалі пра пагрозу эпідэміі (што і пацвердзілася) і людзі да канца не верылі афіцыйнай інфармацыі, хаця ўсе эпідэміялагічныя наказы і абмежаванні ў транспарце прымянялі.

**— Як большасць людзей Ты не вярнуўся ў Польшчу, а застаўся на месцы найбольшай пагрозы? Гэта журналісцкі пакліч ці нешта іншае?**

— Якраз 31 сакавіка спаўняецца мае 20 штатных гадоў на Polskim Radio. Не ўяўляю сабе, што ў такі час я мог бы пакінуць слухачоў. Дарэчы, ніколі як цяпер, я не меў столькі водгукаў сімпатыі. Усе ведаюць, што Кітай справіўся з эпідэміяй, усе хочуць ведаць дакладна, як гэта атрымалася. З другога боку ў Пекіне не было непасрэднай пагрозы для жыцця, — я так лічу, — не было шмат захворванняў, а большасць дзён у лютым я правёў у сваёй кватэры.

**— Ці ў час піку пандэміі Ты меў уяўныя «сімптомы» хваробы?**

— Не і дзякую Богу, што так не было. Хаця мушу сказаць, што па сённяшні дзень раніцай і вечарам яшчэ самастойна мераю тэмпературу. Я вельмі баяўся такой сітуацыі, што, напрыклад, паеду на працу і прастуджуся, а калі буду вяртацца дамоў, траплю ў бальніцу. Тут усім жыхарам мераюць тэмпературу і калі яна вышэйшая, нельга вярнуцца дахаты, трэба ехаць у шпіталь і яшчэ раз усё правяраць. Менавіта прастуды, а не каранавіруса я баяўся найбольш.

**— Як выглядаў кітайскі каранцін? Ці Ты, як еўрапеец, быў пад асаблівым наглядам?**





— У Пекіне каранцін быў выключна для асоб, якія вярталіся з іншых гарадоў або з-за мяжы краіны. У лютым улады раілі, каб як найбольш абмежаваць актыўнасць і сядзець у хаце.

**— Колькі разоў Ты рабіў тэст?**

— Слава Богу, ніводнага разу. Як ведаем, тэсты павінны рабіць асобы з рызыкай інфекцыі. У мяне такой рызыкі не было.

**— Ці кітайскія медыя інфармавалі пра рэальны стан пагрозы? Якія апрача каранавіруса былі іншыя тэмы?**

— Першыя тыдні амаль выключнай тэмай была эпідэмія. Я лічу, што сапраўды была інфармацыя пра рэальны стан пагрозы, але на сённяшні дзень частка замежных аналітыкаў сумняваецца ў тым, ці Кітай паведамляў рэальныя лічбы інфекцый і смяротных ахвяр.

**— Мы зараз сядзім на каранціне, аглядаем фільмы або звонім па ўсіх знаёмых і множым змоўніцкія тэорыі пра прычыну пандэміі. Ці ў Кітаі таксама «знайшлі вінаватага» няшчасця?**

— Як памятаем, першыя інфекцыі з'явіліся ў горадзе Ухань. Навука пакуль не дала нам адназначнага адказу на пытанне адкуль узяўся вірус. Што цікава, Кітай вядзе цяпер каардынаваную кампанію, якая сумняваецца, што з'яўленне віруса ва Ухані, ці нават у Кітаі, не абазначае, што ён выспеў у той жа Ухані ці ў Кітаі. Трэба вельмі, вельмі асцярожна падыходзіць да такіх кітайскіх інфармацый. Кітай цяпер не толькі не хоча, каб гаварылі «кітайскі вірус», але і нават «вірус з Ухані». Гэта ўжо давяло да міжнародных спрэчак вялікага маштабу, таму што амерыканскі прэзідэнт называе вірус «кітайскім». Адзін з прэс-сакратароў кітайскага Міністэрства замежных спраў намякнуў, што каранавірус маглі прывезці ў Кітай амерыканскія жаўнеры. А ўжо цалкам нядаўна кітайскія СМІ спекулявалі, што ў Італіі пік нетыповых захворванняў на грып быў ужо ў лістападзе. Напэўна зараз ідзе інфармацыйная вайна на гэтым полі. Неўзабаве, калі сітуацыя будзе пад кантролем, я ўпэўнены, што пачнуцца пошукі «вінаватага». Таму так важна выбіраць верагодныя крыніцы інфармацыі.

**— Ці з перспектывы апошняга досведу, паспяхова згасання эпідэміі, можаш сказаць, што кітайцы — стары, мудры народ?**

— Я, шчыра кажучы, стараюся ўцякаць ад такіх абагульненняў. Лічу, што кожны народ мае сваю мудрасць. Трэба памятаць, што Кітай гэта краіна, дзе ўлады кантралююць абсалютна ўсе галіны жыцця — і гэта не ад сёння. Тут каранцін людзі ўспрынялі сур'ёзна, бо па-першае, — нагадаю, — памяталі SARS і ведалі, што трэба выконваць наказы. Па-другое, людзі ведалі, што ўсе абмежаванні ўведзены ўладай маюць абмежаваць маштаб эпідэміі.

**— Ці ў час каранціну Ты зрабіў падлік жыццёвых каштоўнасцей, ці зразумеў нешта важнае, чаго раней не прыкмячаў?**

— Так. Найперш, што за ўсе дзевяць гадоў з двума катамі, з якімі я жыву ў Пекіне, мы правялі разам столькі часу. Мне здаецца, што яны пачалі мяне лічыць жывёлай. Больш сур'ёзна — сапраўды не маем нічога, нічога важнейшага апрача здароўя і сям'і. Цяпер, як вядома, уведзены вялікія абмежаванні ў авіятранспарце. Я сумую па Гайнаўцы, па Беласточчыне. На пачатку сакавіка я планаваў адпачынак у Польшчы, але цяпер як ніколі раней актуальная мудрасць: *Чалавек плануе, а Бог смяецца з яго планаў*. На шчасце ёсць інтэрнэт і тэлефоны і я на сувязі з сям'ёй кожны дзень.

**— Ці ў час пандэміі можна зрабіць нешта такое, каб не мець пачуцця змарнаванага часу?**

— Так і скажу больш — трэба такое зрабіць. Па-першае, не правяраць увесь час інфармацыі пра каранавірус. Трэба ведаць, што адбываецца, але не трэба ўвесь час сачыць за гэтым. Па-другое, трэба выконваць свае абавязкі, — кожны з нас, — найлепш як можам. Гэта наш уклад у змаганне з эпідэміяй. Я лічу, што і без каранавіруса ніколі не трэба мець пачуцця змарнаванага часу. Можа варта пазваніць знаёмым, якіх мы даўно не чулі, прачытаць кніжку. Ты мне паставіла вельмі важнае пытанне: што я зразумеў для сябе важнае ў кантэксце апошніх месяцаў і эпідэміі. Кожны з нас павінен зараз адказаць сабе на такое пытанне.

**— Ці думаеш пра Вялікдзень і тое як хацеў бы Ты яго правесці?**

— У гэтым годзе чарговы раз я планаваў правесці Вялікдзень у Іерусаліме і прыняць удзел у зыходзе Благадатнага агню. Цяпер ужо вядома, што гэта нерэальна. Маем XXI стагоддзе. Я ўпэўнены, што недзе знайду у інтэрнэце прамую трансляцыю Велікоднай літургіі. Свята для мяне гэта Бог і сям'я. Бога, як ведаем, можна знайсці не толькі ў царкве, а з сям'ёй будзем святкаваць дзякуючы тэхналогіі.

**— Зноў жа пра тую тэхналогію і мабільнасць. Ці кітайцы ўжо могуць падарожнічаць па сваёй краіне, ляцець за мяжу?**

— З 25 сакавіка падарожнічаць могуць жыхары правінцыі Хубэй, дзе з 23 студзеня абавязваў каранцін. 8 красавіка ўлады маюць намер адмяніць абмежаванні для горада Ухань. Практыка выглядае крыху інакш. Усе, якія вяртаюцца, напрыклад, у Пекін, — дзе абавязваюць спецыяльныя законы, — вымушаны за кожным вяртаннем з іншага горада паддацца двухтыднёваму каранціну. Людзі, практычна, не падарожнічаюць. Большасць краін зачыніла свае межы. Сядзім у сваіх кватэрах у Кітаі і самыя бліжэйшыя «падарожжы» будуць у адзін з паркаў або на Вялікую кітайскую сцяну.

Карыстаючыся нагодай, хачу пажадаць усім чытачам «Нівы» спакойнага Вялікадня і каб кожны з нас знайшоў у часы каранціну ў сваім сэрцы адказ на пытанне: што для нас найважнейшае?

Гутарыла **Ганна КАНДРАЦЮК**
Фота з архіва Тамаша Саевіча



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Беларускія настаўнікі анлайн



За намі першы тыдзень пазаўрочнага навучання, вымушанага каранцінам па прычыне эпідэміі каранавіруса. Мы пацікавіліся, як у такіх экстрэмальных умовах выглядае навучанне беларускай мове.

Як першую, мы запыталі настаўніцу **Валянціну Бабулевіч** з бельскай «тройкі»:

— Я добрай думкі, — кажа настаўніца. — Нашы вучні дысцыплінаваныя і відаць, што іх падтрымліваюць бацькі. Ужо на першым тыдні я атрымала адказы на разасланыя э-поштай задачы. Думаю, што ёсць разуменне сітуацыі і ангажаванасць.

— А як Вы сябе адчуваеце ў ролі настаўніцы-анлайн?

— Спраўляюся. Хачу сказаць, што суцяшае мяне думка, калі дзеці з ахвотай рашаюць задачы па беларускай мове і праяўляюць ангажаванасць. Напэўна, на гэта ўплывае традыцыя нашай школы.

Урокі вядзе таксама **Іаанна Марко**, настаўніца ў беластоцкай праваслаўнай школе:

— Маем нармальныя ўрокі па скайпе. Кожны ўрок — гэта 15 хвілін. Старэйшыя класы маюць таксама праекты і прэзентацыі на беларускай мове. Так што ўсё добра. У траўні дастануць новы праект, кожны абавязаны напісаць тэкст для «Нівы». Вучні ахвотна прымаюць такія выклікі, бо за праект маюць залік за некалькі ўрокаў. Але вядома... усё гэта складана.

Хацелася б вярнуцца да нармальнай працы.

Звычайным ходам, хаця і анлайн, ідуць заняткі па беларускай мове ў Гарадку:

— Сёння ў другім класе знаёмімся з літаркай «д», — кажа настаўніца **Анна Гжэсь,** — і пагаворым пра галоўныя члены сказа. У шостым класе будуць рашаць практыкаванні, а першакласнікі будуць глядзець мульцік па-беларуску.

— Ці ўсе вашы вучні маюць магчымасць працаваць праз камп'ютар?

— Калі б былі нейкія праблемы, — кажа настаўніца, — я атрымала б інфармацыю ад выхавацеляў. Яны атрымалі загад, каб гэта правяраць. А паколькі не было такіх заўваг, думаю што ўсё добра. Хачу сказаць што наша дырэкцыя працуе вельмі спраўна!

Мы таксама зычым, каб настаўнікі і вучні не гублялі энтузіязму і сілы, каб супольна падтрымлівалі адзін аднаго і перадавалі патрэбныя веды і пазітыўны настрой супрацоўніцтва сваім вучням.

*(у наступным нумары мы напішам пра ўражанні вучняў)*

**Зорка**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Крыніцы** – па сённяшні дзень беларусы ўшаноўваюць святыя крыніцы, вераць у іх моц і гаючыя якасці. Нашы продкі шанавалі іх як святыні і прыносілі ім ахвяраванні з жывёл, птушак, кветак, страў і тканых ручнікоў. З прыняццем хрысціянства многія крыніцы набылі функцыю прошчы — месцаў адораных ласкай і надзвычайнай сілай. Вада з такіх крыніц, вераць беларусы, дапамагае ў лекаванні ўсялякіх хвароб. Звычайна яна вызначаецца высокімі смакавымі якасцямі, мае спецыфічны хімічны склад і яе доўгі час можна захоўваць у закрытым посудзе.

Часта ля такіх крыніц знаходзіцца святы камень «следавік». Вось у нашых Кнарыдах, што ў Бельскай гміне, ля святой крынічкі ляжыць камень з адціснутай ступняй Божай Маці. Нядаўна там была спаленая каплічка, але яе адбудавалі і, як кажуць мясцовыя людзі, адбудавалі яе яшчэ прыгажэйшай і слаўнейшай. Усё гэта дзякуючы Божай Маці, якая ахоўвае крыніцу і мае свой камень...

Ля крыніцы ў Мякішах чытаюць акафіст і моляцца за хворых. На малебен з'язджаюць людзі з цэлай акругі, а звесткі пра падзею перадаюць праз камунікатары і эсэмэскі. Аднак найбольш вядомая на Падляшшы «Крынічка» ў Белавежскай пушчы. Сюды кожны год на Тройцу сцягваюць тысячы паломнікаў, каб памаліцца і адначасова падыхаць водарам веснавой векавечнай пушчы. Людзі абмываюць хворыя месцы хустачкамі і ільнянымі латкамі ды пакідаюць іх на плоце. Вераць, што такім чынам астаўляюць свае немачы і хваробы ў лесе, з якімі лёгка справіцца прырода. Вакол крыніцы шмат падзячных крыжоў, якія паставілі аздаравелыя пілігрымы. «Крынічка» — гэта таксама народны, беларускі фэст з беларускімі песнямі, якія ў гэты дзень арганізуюць у гайнаўскім амфітэатры.

На Падляшшы — дзясяткі святых крыніц, з якіх, як згаданая ўжо крыніца ў Мякішах, культ нараджаецца на нашых вачах. Пра гэта, дарэчы, мы нараз ужо пісалі ў „Ніве".

*(Адрэзак паводле «Міфалогіі для дзяцей» Алесі Коршак)*

**(гак)**

Анатоль Івашчанка

## Яна варыць суп

Кідаем бульбу ў рондаль —
буль! —
булькае бульба ўсё роўна,
быццам маленькая бомба.
Кіпень бурчыць і вуркоча,
вымкнуць з-пад накрыўкі хоча.

Зробім паменей агеньчык —
чык! —
солькі крыху дададзім.
Роўненька столькі
кінема солькі,
каб было досыць усім.

Мама, дачысці цыбульку!
Вочкі баляць у дачулькі.
Хуценька, мама, інакай
вочка ў дачулькі заплача!

Дзякуй, матуля! Цяпер жа
дробна цыбульку парэжам,
сальцам патэльню змажам.
Будзем цыбулечку смажыць!

Кінем у рондаль цыбульку —
булькне не горай за бульбу.
Усыплем грыбкоў, зеляніну...
Супчык мяшае Яніна.

Хай пракіпіцца крыху.
Скажам у бок цыху-цыху-цыху,
выключым, хай настаіцца.
Праўда ж, мы — чараўніцы?!

# УВАГА КОНКУРС!
## № 14-20

Нашто я цябе браў, нашто я цябе купляў, каб я ў тваю ямку свае ножкі хаваў?

Б...

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 12 красавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 10-2020: кніжка. Узнагароду, кніжку П. Васючанкі «Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага», выйграў Дам'ян Карнілюк з бельскай «тройкі». Віншуем!




# Паморак

## (беларуская народная легенда)

У нас адзін чалавек сам увёз заразу ў вёску. Вось як гэта было. Разгуляўся паўсюдны паморак, выкасіў амаль усю жывіну ў наваколлі, а ў нас — хоць бы што! Праўда, нашы дзецюкі дзень і ноч на канцах вуліцы клалі агні, каб паморак не мог увайсці. Доўга ён круціўся, ніяк не мог прабіцца, нарэшце пайшоў на хітрасць.

Вось аднойчы ехаў наш чалавек з мястэчка ды крыху спазніўся. Пад'язджае ён ужо пад свае палеткі, як даганяе яго стары нябога. Хацеў ужо чалавек мінуць, але той стаў маліць, каб яго падвезці. Падвезці, дык падвёз, — на добрым учынку свет стаіць.

Гора ў тым, што гэта не быў звычайны жабрак, а толькі паганы паморак на жывёлу. Па дарозе чалавек хоча разгаварыць старога. А той як пень, сядзіць ды толькі сапе, бы кавальскі мех. Ну, пад'ехалі яны да самой вёскі і едуць праз агонь. Скрывіўся паморак, косіцца на агонь, але сядзіць цвіком. Прыехалі яны ў вёску, а тут ужо і сцямнела. Азіраецца чалавек, а яго нябога знік, быццам у зямлю праваліўся.

Здагадаўся чалавек, якое ён ліха прывёз, але нічога не зробіш — ашукаўся. Хоць ты перагніся ды і сам сябе ўкусі.

На другі дзень ужо паморак скасіў столькі жывёлы, што покатам усюды ляжала. Так амаль і ўсё прапала. З той пары людзі пільнавалі, каб у час заразы ніхто з вёскі не выязджаў.

(Паводле легенды, запісанай Сержпутоўскім на Случчынне ад Данілы Куляша з вёскі Чудзін)

**(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка

**№ 14-20**

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 10-2020:**

Шпак, бот, гарбуз, як, марш, вербалоз, вярба, скарб, го, натарыус, Ада, на, тата. Шлях, смак, вясна, мерка, гарбата, Барбара, Орша, брат, Лі, гурт, зноска.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Лукаш Янцэвіч, Ніколь Баслай, Габрыела Краснапольская** з Нараўкі, **Грэта Тамаля, Іза Банцарэвіч** з Міхалова. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Mąż | | | | Bydło / Kołacz | | | | |
| | Łyko | Siostra | | | | | | Ubrania | |
| | Sowa | | | | | Noga | Jemioła | | |
| Sęk / Tęcza | | | | | | | | Ar / Ina | |
| | Kawa | | Żeby | | | Min | | | |
| | Tkacz | | | | | Ona | | | |
| | | | | Wiara | Jarzębinka | Łach | | | |
| | | | | | | | | | |

# Адукацыя бельскіх белліцэістаў па-за школай і іх ранейшыя поспехі

Зараз будынак II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім пустуе, так як і ўсе пачатковыя і сярэднія школы ды вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Польшчы. Аднак вучні працуюць дома па матэрыялах, якія рэкамендавалі ім настаўнікі на сайце школы. Вядзецца дыстанцыйнае навучанне бельскіх белліцэістаў з выкарыстаннем інтэрнэтнай адукацыйнай платформы. Раней белліцэісты дабіліся многіх поспехаў на прадметных конкурсах і алімпіядах. Са спыненнем стацыянарнага навучання ў школах агульнапольскія адукацыйныя спаборніцтвы найчасцей закончыліся на акруговых элімінацыях. Бельскія белліцэісты, як і астатнія вучні сярэдніх школ, якія былі кваліфікаваны на цэнтральныя элімінацыі алімпіяд, а тыя не адбыліся, сталі іх фіналістамі.


Зараз будынак ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім пустуе

У час пандэміі каранавіруса, каб абмежаваць яго распаўсюджанне, Міністэрства адукацыі 12 сакавіка спыніла заняткі ў школах. Згодна з міністэрскім указаннем з 16 сакавіка вучні займаюцца дома. Вучням, бацькам і староннім асобам забаронена заходзіць у школьныя будынкі. Калі я 23 сакавіка патэлефанаваў дырэктару Бельскага белліцэя Андрэю Сцепанюку, у школе адбывалася падрыхтоўка да дыстанцыйнага навучання з выкарыстаннем інтэрнэтнай адукацыйнай платформы, каб настаўнікі маглі таксама непасрэдна праводзіць заняткі з вучнямі перад камп'ютарамі. Гэта асабліва важнае ў выпадку вучняў трэціх класаў, якіх чакаюць матуральныя экзамены.

— На сённяшні дзень тэрмін матуральных экзаменаў нязменены, але не ведаем якое будзе рашэнне Міністэрства адукацыі ў наступных тыднях. Хаця вучні цяпер не прыходзяць на заняткі ў школу, іх адукацыя надалей працягваецца. Дагэтуль на сайце нашай школы настаўнікі паасобных прадметаў змяшчалі інфармацыю, з якім матэрыялам вучні маюць працаваць дома, давалі ім указанні. Я заняты зараз арганізацыяй вучобы з выкарыстаннем інтэрнэтнай адукацыйнай платформы, каб была магчымасць непасрэднай адукацыі вучняў дома, — сказаў у час тэлефоннай размовы дырэктар Андрэй Сцепанюк.

Перапынак у працы школ першапачаткова быў вызначаны да 25 сакавіка, але быў адтэрмінаваны на першую дэкаду красавіка. Урад будзе аналізаваць колькасць новых захворванняў выкліканых каранавірусам і мае вырашыць, ці перапынак у традыцыйнай адукацыі будзе прадоўжаны на другую палову красавіка, аб чым будзе непасрэдна паведамляць Міністэрства адукацыі.

— Нашы вучні ў гэты перыяд, калі не прыходзяць на заняткі ў школу, маглі карыстацца платформай IT-Школа, на якой зарэгістраваны наш белліцэй. Вучні маглі там прымаць удзел у курсах, слухаць даклады, глядзець фільмы і прэзентацыі па інфарматыцы, матэматыцы, фізіцы, хіміі і англійскай мове. Усе даступныя там матэрыялы — бясплатныя вучням нашай школы, — паінфармаваў Андрэй Сцепанюк.

Дырэктар выявіў задавальненне, што вучні Бельскага белліцэя дабіліся многіх поспехаў у бягучым і папярэднім школьных гадах навучання. У пачатку 2020 года Бельскі белліцэй у рэйтынгу самых лепшых ліцэяў у Польшчы, арганізаваным часопісам «Перспектывы», здабыў «Сярэбраную адзнаку» (атрымаў яе таксама Гайнаўскі белліцэй). У рэйтынгу Бельскі белліцэй заняў першае месца ў Бельскім павеце і 14 месца ў Падляшскім ваяводстве. Змаганне за першынство адбывалася на падставе вынікаў навучання, матуральных экзаменаў, поспехаў на алімпіядах і з улікам умоў і спосабаў навучання, якія тычыліся папярэдняга школьнага года. У рэйтынгу алімпійскіх школ часопіса «Перспектывы» Бельскі белліцэй заняў 2 месца ў Падляшскім ваяводстве і 16 месца ў Польшчы, дзе ацэньваліся поспехі на алімпіядах, якіх дабіліся бельскія белліцэісты таксама ў папярэднім годзе навучання. На поспехі белліцэяў у рэйтынгу самых лепшых ліцэяў у Польшчы і на поспехі ў паасобных алімпіядах і конкурсах звяртаюць увагу вучні пачатковых школ, калі выбіраюць сярэднія школы для пазнейшай адукацыі.

Да перапынку ў стацыянарных занятках настаўнікі інтэнсіўна працавалі са здольнымі белліцэістамі і рыхтавалі іх да алімпіяд і конкурсаў, на якіх ліцэісты дабіліся поспехаў. Алімпіяда па беларускай мове закончылася на другім этапе — акруговых элімінацыях, якія адбыліся 16 студзеня ў Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Усе ліцэісты, 25 асоб, кваліфікаваны на цэнтральныя элімінацыі Алімпіяды па беларускай мове, сталі яе фіналістамі.

— Вядома ўжо, што ўсе асобы кваліфікаваныя на цэнтральныя элімінацыі Алімпіяды па беларускай мове і іншых прадметных алімпіяд стануць іх фіналістамі. Калі цэнтральныя змаганні алімпіяд не адбыліся да перапынку ў стацыянарных занятках, ужо не будуць арганізавацца. У час прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы вучні будуць маглі пакарыстацца прывілеямі фіналістаў прадметных алімпіяд. Яшчэ няма канчатковага рашэння, ці будуць вызначацца лаўрэаты алімпіяд на падставе вынікаў акруговых спаборніцтваў, — заявіў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Вучні Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў, якія сталі фіналістамі Алімпіяды па беларускай мове, атрымаюць максімальную колькасць балаў на матуральным экзамене па роднай мове.

Пераможцамі конкурсу «Грамадска-палітычныя перамены ў Польшчы і падляшскім рэгіёне ў васьмідзясятых гадах ХХ стагоддзя ва ўспамінах прадстаўнікоў беларускай меншасці», ладжанага Фондам «Kamunikat.org.», сталі многія бельскія белліцэісты. Першае месца занялі Дар'я Несцярук, Анна Нікіцюк і Наталля Шварц, на другім месцы апынуліся Эвеліна Амельяновіч і Дамініка Календа, трэцяе месца здабылі Аляксандра Баўтручук, Аляксандра Рагоза і Себастыян Мацэеўскі, а вылучэнне атрымалі Блажэй Ярашэвіч, Максім Фіёнік і Міхал Казлоўскі.

У I Падляшскім конкурсе ведаў аб ахове асяроддзя, які арганізавала Аддзяленне хіміі Універсітэта ў Беластоку, бельскія белліцэісткі сталі лаўрэатамі. Мая Аляксандра Аксэнтовіч заняла першае месца, Мартына Каравай была на другім месцы. Да конкурсу падрыхтавала іх настаўніца біялогіі Ірэна Траянчук. Раней Мая Аляксандра Аксэнтовіч атрымала стыпендыю Прэм'ера Урада РП і Міністра нацыянальнай адукацыі на бягучы навучальны год.

У час акруговых элімінацый V Агульнапольскай алімпіяды гістарычных ведаў белліцэіст першага класа Адам Заброцкі атрымаў найлепшы вынік у сваёй акрузе і другі вынік у краіне. Стаў ён фіналістам цэнтральных элімінацый Агульнапольскай алімпіяды гістарычных ведаў, а падрыхтаваў яго настаўнік гісторыі Уладзімір Вавульскі. Адам Заброцкі і Эмілія Раманчук, якіх рыхтаваў таксама Уладзімір Вавульскі, былі кваліфікаваны на цэнтральныя элімінацыі Алімпіяды ведаў аб антычным свеце, якую ладзіць Юрыдычны факультэт Універсітэта ў Беластоку і белліцэісты сталі яе фіналістамі. У акруговых элімінацыях Алімпіяды ведаў аб бяспечнасці і абараназдольнасці, ладжаных у Ломжы поспехаў дабіліся белліцэісты. Блажэй Ярашэвіч заняў першае месца, на другім месцы была Мартына Грыгарук, а трэцяе месца заняў Максім Фіёнік. Да цэнтральнага этапу алімпіяды былі кваліфікаваны яшчэ белліцэісты Патрыцыя Паўлючук, Шымон Дэнісюк і Дам'ян Дзмітрук, якіх апекуном быў настаўнік Уладзімір Вавульскі. Караліна Гурская, якую таксама рыхтаваў Уладзімір Вавульскі, перайшла да цэнтральных элімінацый і стала фіналісткай VI Алімпіяды ведаў аб медыях. 26 лютага адбыўся другі этап конкурсу «Еўропа з нашай вуліцы», ладжанага Польскім фондам дзяцей і моладзі і Фондам «Ліберальная адукацыя». Мэтай конкурсу было адкрыванне супольнай еўрапейскай культурнай і грамадскай спадчыны і разгортванне зычлівасці і адкрытасці на іншыя нацыянальнасці. Вучні Бельскага белліцэя Аляксандра Баўтручук, Аляксандра Рагоза, Патрык Раманюк, Себастыян Мацэеўскі, Міхал Казлоўскі і Дам'ян Дзмітрук пад апекай настаўніка гісторыі Уладзіміра Вавульскага падрыхтавалі на конкурс фільм «Орля — шматкультурнасць, талерантнасць і памяць», у якім паказалі, як раней у Орлі жылі згодна яўрэі, праваслаўныя і вернікі іншых рэлігій. За фільм белліцэісты атрымалі званне лаўрэата конкурсу «Еўропа з нашай вуліцы», а ўзнагарода пераможцы гарантуе экскурсію ў Брусель, знаёмства там з еўрапейскімі ўстановамі і сустрэчу з прадстаўнікамі Еўрапарламента. Зараз па прычыне пандэміі каранавіруса экскурсія адтэрмінавана.

Бельскія белліцэісткі дабіліся таксама поспехаў на VI Агульнапольскай алімпіядзе па польскай мове «Жыццё і творчасць Адама Міцкевіча», арганізаванай у Лодзі. Марта Троц заняла першае месца, а Эмілія Раманчук — адзінаццатае. Бельскіх белліцэістаў падрыхтавала настаўніца польскай мовы Аліцыя Кобус. Белліцэісткі Аляксандра Тапалеўская, Мартына Грыгарук і Клаўдзія Сяткоўская сталі фіналісткамі Ваяводскай алімпіяды ведаў аб СНІД (Сіндром набытага імунадэфіцыту), а падрыхтавала іх да алімпіяды школьная педагог Марыя Нікалаюк.

25 сакавіка на сайце Бельскага белліцэя, на фейсбуку, былі змешчаны бел-чырвона-белы сцяг з гербам Пагоня і віншаванні з Днём Волі, са словамі «Жыве Беларусь!». Белліцэісты адказвалі: «Жыве!».

У дадзены момант вядзецца дыстанцыйнае навучанне бельскіх белліцэістаў з выкарыстаннем інтэрнэтнай адукацыйнай платформы.

— Прынамсі да 10 красавіка ліцэй будзе працаваць у сістэме пазашкольнай працы. Гэта ставіць перад намі новыя выклікі і застаўляе знайсці развязкі, якія будуць служыць вучням. Таму з 26 сакавіка пачынаем вучобу з выкарыстаннем платформы universality.io, — паінфармаваў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

1 ☞ працяг

Зрабіў фатаграфію на беразе возера, пад вярбой. Цяпер у мяне дзве такія фатаграфіі — дзесяцігадовым хлопчыкам і другая, у сталым узросце — тое месца, тая ж вярба, толькі людзі ўжо ў Дукштах не тыя. І вярбы ўжо насамрэч таксама няма, ссечаны ўсе дрэвы. Добра, што новы крыж паставіў на бацькавай магіле.

### ТРЫПУЦІ

— А Трыпуці? Як вы сюды патрапілі?

— У Трыпуцях як першая пасялілася мая цётка Касцючык, у першую вайну яе муж быў матросам расейскага флоту. Жылі яны ў Фінляндыі, вайна закончылася і цётка пераехала ў Трыпуці. Другая цётка, Валентыновіч, жыла на Віленшчыне, аўдавела і пераехала таксама ў Трыпуці. Мая бабуля — не ведаю адкуль у яе былі грошы, мабыць нейкія яшчэ царскія залатыя рублі, купіла тут зямлю сваім дочкам, то-бок цётцы Валентыновіч і маёй маме. Цётцы пабудавалі невялікі домік, стаіць па сённяшні дзень тут побач, а зямлю маёй мамы аралі, садзілі бульбу. Калі мама выйшла на пенсію, развіталася з Кентшынам, пабудавала тут хату і пераехала жыць. Я, жыўшы яшчэ ў Гайнаўцы, паставіў кемпінг на мамінай зямлі, разам з братам Юркам стаўлялі. І прыязджалі на канікулы — брат з дочкамі, я з сынамі. Мама памерла, я выйшаў на пенсію, пабудаваў новы вялікі дом, па-суседску. Ясё, малодшы сын, таксама пабудаваў дом. Ён недаканчаны, сын зараз у Нарвегіі, але ж той нарвежскі перыяд некалі закончыцца і ён вернецца сюды. А гэты дом застанецца Славаміру.

### СЛАВАМІР

— Дукшты, што яны для цябе? — пытаю Славаміра.

— У Дукшты першы раз паехаў у 2010 годзе. Вельмі хацеў паехаць. Па-першае, пабачыць магілу дзеда Броніся. Цяпер штогод езджу туды са сваёй дачкой. На фундаментах дзедавай хаты стаіць новы дом, жывуць там новыя гаспадары, літоўцы. Але сустракаемся з гаспадыняй. Яна размаўляе на беларускай, польскай, літоўскай мовах. Запрашае зайсці ў дом, паглядзець. За некалькі тыдняў да сваёй смерці дзядзька Юры распавядаў мне пра смерць дзеда Браніслава і пасля, калі я зайшоў у гэты дом, усе расповеды ажылі ў вачах, бо праўда, дом новы, але фундаменты старыя і расклад памяшканняў не змяніўся. Адночы паехалі ў тры пакаленні — я, мой бацька і мая дачка. Дачцэ было сямнаццаць, хацелася, каб на дзедавых слядах сустрэліся тры пакаленні, пакуль ёсць такая магчымасць.




Беларускай мовай карыстаюся гадоў шэсць, так дзіўна склалася, што бацькі між сабой размаўлялі па-беларуску, а з намі па-польску. Чаму? Не ведаю. А пасля пачаў з мамай размаўляць па-беларуску. І так засталося. Было нат крыху сорамна перад дзядзькам Юркам, што не магу з ім паразмаўляць на роднай мове. А вось апошняя ў нас размова атрымалася па-беларуску, з пачатку да канца... Маю ўражанне, што я заўсёды думаў па-беларуску, толькі мова заставалася неактываванай. На пахавінах дзядзькі Юркі я ўсвядоміў сабе, як значнай ён быў асобай, як важную пакінуў спадчыну. Трэба яе захоўваць.

У Беластоку працую настаўнікам, жыў там гадоў сем, але ніколі не адчуваў сябе камфортна ў гэтым горадзе. У Трыпуцях так. Трыпуці крыху нагадваюць Гайнаўку, горад дзяцінства і маладосці. Сосны і дубы побач з домам, па-над домам. Як сурагат пушчы. А неабыякавасць да пушчы застаецца. Прымаў удзел у пратэстах супраць высечкі, нават у суд патрапіў, хаця суд апраўдаў нас, прызнаў пратэсты законнымі.

Збіраюся да ад'езду. На вуліцы люты шпарка ступае насустрач сакавіку і зіма 2019 года апошнім кволым снегападам адбіваецца ад непазбежнай вясны.

— Часам думаю, што тата застаўся ў Гайнаўцы з-за мамы. Мама родам з Беласточчыны, як і бабуля Марыя, толькі бабуля з Рушчанаў ля Харошчы, а мама з Нараўкі на Гайнаўшчыне, — усміхаецца Славамір.
— Дзяўчын у Гайнаўцы было шмат, а толькі яна добра размаўляла па-беларуску. І ў дадатак прыгожая была.

Была? Ці сапраўды так сказаў Славамір? Не, гэты дзеяслоў-звязка „была", як супрацьлеглы халодны полюс для жывога „ёсць" выхінуўся з мяне сёння, годам пазней, калі седзячы за камп'ютарам шукаю ў памяці падрабязнасці вандроўкі ў Трыпуці.

Днямі прыйшла сумная навіна, што спадарыні Тамары Туронак няма ўжо з намі.

Фота і тэкст **Міхася АНДРАСЮКА**

## Прыйшла вясна і прыляцелі гусі

24 і 25 сакавіка гэтага года на Семяноўскае возера прыляцелі дзікія гусі. 24 сакавіка над вёскай Новае Ляўкова ляцелі яны малымі чародкамі або ўсяго парамі пад вечар, яснай зорнай ноччу і наступнага дня раніцай. Пазнаць іх можна было па тым, як яны часта і гучна пераклікаліся паміж сабой. Вясна, вясна прыйшла!

Вечарам я прыйшоў дадому, прынёс дровы да кухоннай пліты (на двары ўсё яшчэ холадна) і задумаўся, як гэта гусі выбіраюць напрамак свайго палёту. Ну ноч тым разам была зорная і ясная. Ляцелі яны ў простай лініі на паўночны-ўсход, а там, між іншым, вышэйзгаданае вялікае вадасховішча ды азёры ўжо за нашай дзяржаўнай мяжой, на Беларусі.

Ляцелі яны здалёк ды над палямі, лугамі, рэкамі, лясамі і тут у нас над Белавежскай пушчай. Як тая магчыма трымаць накірунак? Вось не толькі для мяне загадка. Якія ж разумныя гэтыя дзікія птушкі. **(яц)**



## Гайнаўка, вуліца ксяндза Верабея

Геаграфічнае становішча Берасцейшчыны ўвесь час спрыяла таму, што радзімай або месцам пражывання для многіх выдатных асоб стала і тэрыторыя Польшчы, што сёння прымыкае да мяжы з Беларуссю.

Час ад часу бываючы ў Гайнаўцы, трапляла я на вуліцу Ігнацы Верабея. Акрамя таго, што ён — каталіцкі святар, не ведала нічога. Аднак, пазнаёміўшыся ў свой час з рукапісам камянецкага краязнаўцы Георгія Мусевіча «Слоўнік Камянеччыны», даведалася, што чалавек, імем якога названа вуліца, не проста пробашч.

**Ігнацы Верабей** (1898-1978) — гісторык, грамадскі дзеяч, краязнаўца, які, жывучы пэўны час на Камянеччыне, сабраў вялікі архіў, які налічвае звыш тысячы папак. У іх — даследаванні пра Камянецкую зямлю. Падрабязна, крок за крокам, аўтар прасочвае мінулае нашага краю: гістарычныя падзеі, знакамітыя асобы, вынаходніцтвы, побыт і г.д.

Нарадзіўся Ігнацы Верабей на Берасцейшчыне.

Удзячныя нашчадкі назвалі яго імем адну з вуліц Гайнаўкі, увекавечыўшы такім чынам выдатнага земляка.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

# Супрацьзаразы — чысціня і... магія (2)

Найбольшыя заразы вядомай нам гісторыі чалавецтва: **Афіны** — 430 г. да н.э. **Чума Юстыніяна** — 641 г. **Чорная смерць** — 1347 г. **Мексіка** — каля 1500-1600 г. **Міланская чума** — 1629 г. **Вялікая зараза ў Лондане** — 1665-1666 гг. **Сапраўдная воспа** — XVIII ст. **Халера** — XIX ст. **Кітайская чума** — 1855 г. **Іспанка** — 1918-1919 гг. **Эбала** — 1994-2007гг. Як гэта магчыма, што старажытныя цывілізацыі маглі ўсцерагчыся ад заразы? Старажытныя народы — шумеры, вавілонцы, егіпцяне стваралі гарады большыя і больш людныя чым сярэднявяковыя. Таму не цярпелі народы эпідэміі, а паасобныя вогнішчы заразы хутка гаслі. Яны ж не ведалі пра існаванне вірусаў і бактэрый, не мелі сульфаніламідаў ці тым больш антыбіётыкаў. А мелі штосьці, у што не павінны былі верыць у сярэднявеччы...

«Егіпцяне — найздаравейшыя з людзей!» — пісаў каля 450 года да нашай эры Герадот з Галікарнасу, якога лічаць найлепшым і найбольш сумленным гісторыкам старажытнасці. Што цікава, пяць стагоддзяў пасля рымскі гісторык і пісьменнік Пліній палічыў Егіпет «айчынай усіх хвароб». Што змянілася праз паўтары тысячы гадоў? У час Герадота егіпцяне трымаліся сваіх вераванняў і звычаяў перанятых ад вавілонцаў. Іхняя рэлігія наказвала рытуальныя купанні — усе яны абавязкова мыліся кожны дзень раніцай, у поўдзень і ўвечары, а таксама перад кожным спажываннем ежы. Скуру ачышчалі лугам, часта таксама ставілі сабе клізму, каб ачысціць «меты», значыць, унутраныя каналы (чысцілі такім чынам вантробы ад неператраванай ежы і таксін. Не ведалі нічога аб хваробатворных бактэрыях, гэтага патрабавалі ад іх іхнія багі: Тот, Атон, Імсэт ці Беса ды загадвалі ім дбаць аб прыроду. У час да нашай эры Ніл (яго ваколіцы насяляла найбольш людзей у гэтай частцы свету) быў такой чыстай ракой, што можа было піць ваду проста з рэчкі. Не ўпускалі ў Ніл ніякіх нечыстот, а смецце вывозілі далёка ад горада. Усё змянілася спачатку пад панаваннем рымлян, а пасля арабаў — яны змянілі Ніл у смярдзючы сцёк.

Пакуль Егіпет не забываў старых звычаяў, прымяняў «магічныя» сродкі, такія як касторавы (рыцынавы) алей, сурму (антымон), галын (алун), драўляны вугаль і родныя з мандрагорай гіясцыямін і скапаламін. А таксама «спляснелы хлеб» (пеніцылін), якім лячылі заражаныя раны. Егіпцяне прымянялі нават «тэсты на цяжарнасць», дзякуючы якім вызначалі пол дзіцяці. Жанчына пісяла на мяшанку зерня пшаніцы, ячменю, дактыля і пяску. Калі першая прарасла пшаніца — гэта было на хлопца, а калі ячмень — на дзяўчынку. І гэтак атрымлівалася! Мача жанчыны ўтрымлівае гармоны, якія ўплываюць не толькі на людзей, але нават на расліны. Лічылі гэта магіяй. Тая магія памагала таксама егіпцянкам, якія не хацелі цяжарнасці. Рабілі паласканне з выцяжкі з калючак акацыі — цяпер ведаем, што мае ён шмат асептычнай малочнай кіслаты.

А калі хтосьці захварэў? Згодна з прынятым яшчэ ў Месапатаміі звычаем, хворых ізалявалі. Тлумачылі гэта тым, што ў іх целах расселіся дэманы, якія любяць пераходзіць з чалавека на чалавека. Пакутуючым гарантаваліся спакой і адпачынак у зацішным месцы, пакуль злыя духі сабе не пойдуць. Шмат з гэтых звычаяў пераналі ад егіпцян ізраільцяне, а ад іх мусульмане. Таму ў час XVI-вечнай чумы званай Чорнай Смерцю ў жыдоўскіх гмінах было менш захворванняў.

Хрысціяне, каб адрозніцца ад «няверных», выбралі адваротную стратэгію. Хваробу лічылі боскім пакараннем, сасланым на грэшніка. Таму не ізалявалі хворых ад здаровых. А гігіену лічылі распустай, да якой схільвае д'ябал. Таму ў рэгламенце рыцараў-тэмпляраў было запісана, каб яны не злоўжывалі купеллю і не брылі (нават і расчэсвалі!) сабе барод. Нічога дзіўнага, што блохі мелі гулі! Філасофію пагарды да чысціні прапаведавалі яшчэ XVII-вечныя каралі Францыі! Аж да паловы XIX стагоддзя хірургі не мылі сабе рук перад аперацыяй.

Будзем без вады і ў кучах смецця? Яшчэ нядаўна здавалася, што чалавецтва ўстараніла большасць заразных хвароб. Цяпер аказваецца, што бактэрыі і вірусы мутуюць хутчэй, чым мы зможам вынайсці штораз больш сучасныя лякарствы. А людзі ўжываюць так многа чыстай вады, вырабляючы столькі адкідаў, што гігіена ды асептыка становяцца проста камфортам. Ці пагражае нам, што палову чалавецтва выбʼе нам чарговая пандэмія? З-за бруднага рынку ва Ухані? Ці можа, скажам, з Ламбардыі, дзе раней чым у Кітаі людзі канчаліся ад крывавай пнеўманіі, пра што не гаворыцца? Гісторыя 3,7 тысяч пасажыраў камфортнага карабля „Diamond Princess", на якім у лютым 2020 года распаўзлася эпідэмія грыпу (забаранілі ім пакідаць палубу), выдаецца быць вельмі падобнай да лёсу генуэзцаў, галеры якіх прагналі з порта ў Месіне. У XVI ст. зрабілі гэта запозна, каб прадухіліць катастрофу. Цяпер таксама занадта адцягвалі, каб абмежаваць распаўсюд віруса. Ці за сем стагоддзяў свет нічога не навучыўся? Ці не варта вярнуцца да месапатамскай «магіі», якая наказвала шанаваць прыроду і самых сябе? Пазбягаць, каб пасля ў паніцы не шукаць лякарства? Ад адказу на гэта пытанне залежыць будучыня нашага свету, аплеценага інфармацыйным сецівам, дзе яшчэ нядаўна ўсе былі палітолагамі, а цяпер — вірусазнаўцамі і спецыялістамі па тэорыях змовы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Памятныя здымкі

Гартаю лісткі дамашняга архіва. Допісы, здымкі... Колькі іх накапілася? Цяжка палічыць. Кожная старонка тэксту, кожны здымак гэта гісторыя майго жыцця, якога заслону таямніцы хачу падняць перад шаноўнымі чытачамі. Пачатковае навучанне пачаў я ў сямігодцы ў Чаромсе ў 1947 годзе. Школа змяшчалася ў прыватнай кватэры Місея Верэмчука. Непадалёк знаходзіўся млын Раеўскага. Памятаю свой першы дзень. У школу правяла матуля і ўсю дарогу трымала за руку. З Кузавы ў школу было каля трох кіламетраў. Але мы „праставалі" дарогу — пайшлі напрасткі праз пуці, побач паравознага дэпо.

Вартаўнікі Службы аховы чыгункі забаранялі хадзіць праз пуці. Мы аказаліся хітрэйшымі. Быццам зайчыкі непрыкметна шмыгалі паміж складамі вагонаў. У зімовы час бацькі па чарзе вазілі ў школу на санках. Кіраўніком школы быў Возьны. Настаўнічала ягоная жонка і старэнькая бабулька Сахацкая. У школе каля Раеўскага вучыліся вучні класаў адзін-чатыры, старэйшыя з класаў пяць-сем — у школе «На Пясках», якая знаходзілася за касцёлам. У пачатках пяцідзясятых гадоў адмянілі кіраўніка школы. Была гаворка, што Возьнага павысілі ў чыне — назначылі інспектарам асветы ў Сямятычах. Заступіў яго Юзаф Монсяль. Настаўнічала таксама ягоная жонка Марыся. Тады ў Чаромсе ўзнікла ідэя пабудовы мураванай двухпавярховай школы з гімнастычнай залай. З пазнейшых настаўнікаў запамяталася мне Марыя Шостак, якая навучала польскай мове і гісторыі. Мікіта Карповіч, які выходзіў з Хлевішчаў, вучыў рускай мове і арыфметыцы. Да кузаўцаў, якія не вывучылі ўрокаў, меў звычку паўтараць такую вось прымаўку: «Не вывучыў урока, затым ідзі ў царкву, пастаў Богу свечку ды бярыся за цэп і малаці грэчку». У наваколлі кузаўцаў называлі «грэчкасеямі», паколькі зямля тут была пясчаная і кожны селянін сеяў грэчку. Запамяталіся яшчэ Станіслава Ратыняк (навучала біялогіі), настаўніца Федзюкевіч і маладзенькая Ларыса Шпаковіч з Белавежы, якая займалася фізкультурай. У пяцідзясятых гадах, калі пабудавалі новую пагранзаставу ў Чаромсе, дык пагранічнікі адзін барак перадалі школе. Будынак школы паставілі ў цэнтры пасёлка, пры рынычку, там, дзе зараз знаходзіцца павільён «Паўшэхны». Мне яшчэ выпала на долю апошнія тры класы вучыцца ў гэтай школе. Побач школы 30 красавіка 1954 года быў выкананы памятны здымак. Але аб гэтым ужо наступным разам.

(працяг будзе)



На здымку злева: Ларыса Шпаковіч і Федзюкевіч. На другім плане вучні: Яніна Міклашэвіч, Уладзімір Сідарук, Лёнік Кульваноўскі, Марыся Рошчанка, Дзмітры Назарук, Віктар Гірын, Васіль Баранаў, Галіна Міклашэвіч і Сцяпан Рошчанка

Уладзімір СІДАРУК



# http://prezident21by.org

У Беларусі даволі многа людзей, якія не падтрымліваюць дзеючы рэжым нязменнага праўлення Аляксандра Лукашэнкі. Аднак за 25 гадоў яго ўсеўладдзя канкурэнтнае палітычнае жыццё амаль сышло на нуль. Зважаючы на тое, што за гэты час не было ў Беларусі выбараў, вынікі якіх не былі б сфальшафаваныя, на адраджэнне гэта жыцця сёлета, калі магчыма адбудзецца прэзідэнцкая выбарчая кампанія, не трэба спадзявацца. Для Лукашэнкі гэта, зразумела, найлепшы варыянт, бо нават пры гучнай назве яго пасады — прэзідэнт, ён на самой справе не нясе аніякай адказнасці за свае дзеянні. Ён заўсёды можа знайсці вінаватых у сваіх праліках і памылках. Што ж да Беларусі, то тут сітуацыя амаль трагічная — людзі адвыкаюць ад сапраўдных выбараў, не могуць адрозніць добрую палітыку ад дрэннай, не шукаюць альтэрнатывы ўзурпатару.

Тыя ж, хто хочуць нешта змяніць у краіне ў лепшы бок, разумеюць, што ў цяперашніх умовах яны могуць толькі гуртаваць сілы, чакаючы лепшых часоў, якія ўсё не надыходзяць. І тады застаецца хаця б імітаваць канкурэнтную палітычную барацьбу, прыдумваючы разнастайныя акцыі ці то са зборам подпісаў за нешта добрае, ці то распавядаючы пра свае разумныя прапановы, ці то прапануючы людзям назваць таго, хто ім будзе сімпатычны на пасадзе прэзідэнта. Менавіта так можна пазначыць акцыю, якую праводзіць цяпер частка беларускай апазіцыі, называючы яе праймерыз.

Сутнасць праймерыза ў тым, што, вандруючы па розных гарадах Беларусі, палітычныя лідары, якія пагадзіліся ўдзельнічаць у гэтай працэдуры, распавядаюць аб сваіх поглядах на розныя бакі жыцця краіны. Тыя ж, хто прыходзіць на гэтыя сустрэчы, могуць паўдзельнічаць у галасаванні і „абраць" упадабанага магчымага кандыдата. Праўда, апошнім часам у гэтым галасаванні пачалі прымаць удзел лукашэнкаўскія чыноўнікі, якія, паводле некаторых палітыкаў, што пайшлі на праймерыз, спецыяльна робяць, каб „дапамагчы" аднаму з канкурэнтаў. Цяпер колькасць гэтых палітыкаў у праймерызе паменела, а яго арганізатары, улічваючы пандэмію каранавіруса, заклікаюць прагаласаваць анлайн. Для гэтага трэба зайсці на сайт **https://prezident21by.org**.

„Запрашаем да ўдзелу ў Народным галасаванні — праймерыз аб'яднанай беларускай апазіцыі — для вызначэння адзінага дэмакратычнага кандыдата на прэзідэнцкую кампанію 2020 года", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, які выдатна аздоблены бел-чырвона-белым сцягам з Пагоняй.

Уласна галасаванне на сайце даволі цікавае. Яно складаецца з дзвюх частак. Першая, галоўная — гэта галасаванне „за", якое пойдзе ў залік пры абранні адзінага кандыдата. Другая, дадатковая, пры галасаванні ў якой можна аддаць два галасы „за" двух кандыдатаў і „супраць" яшчэ аднаго. „Яно не пойдзе ў залік, але пакажа, хто з палітыкаў з'яўляецца кампраміснай фігурай", — тлумачыцца на сайце. Там жа нагадваецца, што тэрмін правядзення праймерыза — люты-травень 2020 года, а анлайн-галасавання: сакавік-красавік 2020 года.

Прагаласаваць можна з нумара тэлефона. Праўда, чамусьці не бярэцца пад улік, што адна асоба можа мець больш за адзін такі нумар. Аб гэтым была нават гутарка ў фейсбуку, дзе карыстальнікі прыйшлі да высновы, што механізмаў перашкодзіць такім несумленным паводзінам насамрэч няма.

Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з Календара
Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

## 110 гадоў з дня нараджэння

# Барыса КІТА

Беларускі грамадскі дзеяч, педагог, матэматык, фізік, канструктар, распрацоўшчык ракетнага паліва для NASA, доктар філасофіі ў галіне матэматыкі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі і многіх іншых міжнародных і нацыянальных акадэмій і аб'яднанняў Барыс Кіт нарадзіўся 6 красавіка 1910 г. у Пецярбургу. Раней поўнае прозвішча сям'і было Кіта. Пасля кастрычніцкага перавароту ў Расеі яго бацька перавёз сям'ю ў родную вёску Агароднікі Карэліцкага раёна. Калі Барысу Кіту было дзесяць гадоў, памерла яго маці. Вучыўся Барыс у народнай школе ў Карэлічах і ў Навагрудскай гімназіі. У 1933 годзе скончыў Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя, выкладаў матэматыку, быў выкладчыкам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, Навагрудскай гімназіі, іншых школ на Віленшчыне.

Разам з выкладчыцкай дзейнасцю Барыс Кіт не забываўся і пра беларускую справу — актыўна займаўся развіццём беларускай школы ў Заходняй Беларусі. Двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі і сядзеў у турме: першы раз у Навагрудку за дачыненні з Беларускай сялянска-работніцкай грамадой Браніслава Тарашкевіча, другі раз у Віленскай турме на Лукішках па справе Таварыства беларускай школы. З прыходам савецкай улады Барыс Кіт застаўся ў адукацыйнай сферы — працаваў школьным інспектарам у Баранавіцкай вобласці, займаўся арганізацыяй беларускіх школ, выкладаў матэматыку.

У 1941 г. некаторы час жыў у вёсцы Лебедзева Маладзечанскага раёна, дзе пазней настаўнічаў у мясцовай народнай школе. У час нямецкай акупацыі Барыс Кіт працаваў дырэктарам Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Маладзечне, а пасля ў Паставах. Яго зноў арыштавалі і кінулі за краты. Гэтым разам яго нават ледзь не расстралялі — ад смерці ў Вялейскім СД выратавалі колішнія яго вучні з Віленскай беларускай гімназіі — Адам Дасюкевіч і Кастусь Касяк.

У 1944 г., калі Чырвоная Армія наступала па ўсіх франтах, Барыс Кіт разам з іншымі вядомымі беларускімі дзеячамі культуры і навукі выехаў на Захад, спачатку ў Германію, а пасля ў Амерыку. У 1945-1948 гг. вывучаў медыцыну ў Мюнхенскім універсітэце, выкладаў матэматыку ў мясцовых гімназіях. У 1948 г. эміграваў у ЗША. Працаваў у розных кампаніях, а з 1950 г. удзельнічаў у амерыканскіх праектах падрыхтоўкі да палётаў у космас, даследаваў касмічныя праграмы СССР. Ён першым распрацаваў прынцыпы выкарыстання вадароду як паліва для касмічных ракет, аўтар першага ў гісторыі навукі падручніка па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве.

У пачатку 1990-х гадоў Кіт наведваў Беларусь, прапаноўваў беларускаму ўраду за свае грошы адкрыць беларускамоўны ўніверсітэт, але чыноўнікі адмовіліся, бо не хацелі, каб універсітэт быў беларускамоўным. Апошнія 35 гадоў Барыс Кіт жыў у Франкфурце-на-Майне ў Германіі. На свае юбілеі ён заўсёды атрымліваў віншаванні ад прэзідэнта ЗША. Пражыў амаль 108 гадоў. Памёр 1 лютага 2018 года. Пахаваны на праваслаўных могілках у нямецкім горадзе Вісбадэн, дзе загадзя выкупіў участак.

4 чэрвеня 2008 г. у Наваградскай сярэдняй школе № 1 адчынены музей Барыса Кіта. На будынку школы, дзе Барыс Кіт працаваў у пярэдваенны час, усталявана памятная дошка. Выйшлі ў свет дзве кнігі пра славутага навукоўца — „Вяртанне" (1993) і „Космас беларуса" (1996) аўтарства Лідзіі Савік. У Вашынгтоне (ЗША) у капсуле часу, якая будзе адкрыта праз 500 гадоў, ёсць і біяграфія Барыса Кіта. Беларускі кінарэжысёр Віктар Дашук зняў кінафільм „Барыс Кіт — апошні з магіканаў".

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Хто мае рамантаваць платы?

Некаторыя вёскі на Гайнаўшчыне хутка становяцца бязлюднымі, пусцеюць. Маладыя жыхары шукалі лёгкай працы ды лепшых умоў жыцця ды выехалі адсюль і пасяліліся ў гарадскіх кватэрах. Між іншым, у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны стаяць пустыя хаты і каля іх зарослыя травой панадворкі. Таму і вёска стала сумная. Драўляныя хаты, ганачкі і разваленыя платы пачарнелі. На штыкецінах і праслах платоў вырас сівы мох. У гэтых дамах паўміралі старыя бацькі і няма каму жыць. Некаторыя драўляныя дамы і агароджы патрабуюць неадкладнага рамонту. Хто мае гэта зрабіць?

У Новым Ляўкове выгляд вуліцы і вёскі псуюць між іншым, там-сям ляжачыя зараз у сухім пустазеллі платы прыдамашняй агароджы. Уласнікі гэтых дамоў жывуць у Варшаве, Элку, Беластоку і Белавежы (па адным) ды ў Гайнаўцы (двух). Драўляныя платы паваліліся па сваёй старасці. Адна старая хата ледзь-ледзь трымаецца, правальваецца ў зямлю, а комін ужо разваліўся.

Вяртаюся яшчэ да тых прызабытых платоў. Ёсць наследнікі і яны павінны пра іх паклапаціцца. Іх адрасы маюць гмінная ўправа і солтысы. Уласнікам занядбаных нерухомых маёмасцей трэба прыпомніць, каб навялі парадак на сваіх сядзібах і панадворках. **(яц)**

## Зубры над Бабpоўкай

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ёсць частка тэрыторыі, якую мясцовыя жыхары назвалі Дзікім Захадам. У сонечны дзень 29 сакавіка гэтага года паехаў я на ровары ў гэтае старонне. Калі выехаў з лесу, перада мной адкрыўся вялікі прастор лугоў у даліне рэчкі Бабpоўкі. Свяціла вясенняе сонца і краявід быў шырокі-шырокі. Тут вялікае раздолле, ціха і спакойна. Сюды людзі рэдка калі заглядаюць. Прылятаюць толькі буслы. Ім тут прыдаліся б слупы і драўляныя колы пад гнёзды.

Найперш я ўбачыў драўляную вышку і побач абарог, з якога зубры амаль ушчэнт з'елі сена (асталося крыху на драўлянай падлозе). На вышцы можна было б начаваць. Мае яна кабіну-пакойчык, ёсць салідныя дзверы, вокны. Тут можна схавацца ад дажджу.

Увагу маю звярнуў вялікі жалезны вятрак на гарызонце (ён дае электраэнергію). Калі лепш прыглядзеўся пад сонца, убачыў статак зуброў, якія ішлі да рэчкі напіцца вады. Тут — зубровія. Цікава пабываць на прыродзе асабліва ў цёплую пару года.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Дубы-веліканы

У Белавежскай пушчы растуць прыгожыя дубы. Ёсць сярод іх веліканы ў некалькі тон вагі. Дубы-волаты цешаць нас сваёй прыгажосцю і магутнасцю.

Асабліва прыгожыя дубы знаходзяцца на тэрыторыі лясной Нараўчанскай гміны. Дубовыя гайкі варожаць вока за вёскай Свінарої, на калёніі Скупава, каля вёсак Крыніца і Альхоўка ды Гнілец.

Стройныя векавыя дубы можна сустрэць за ўрочышчы Вілы, там дзе прытокі Гвозьна і Брашча ўліваюцца ў раку Нараўку.

Прыгожыя дрэвы гэтага шляхетнага віду ліставых можна ўбачыць каля царквы ў Нараўцы ды пры павятовай дарозе, якая паралельна бяжыць побач чыгункі ў вёсцы Плянта (на шляху з Гайнаўкі ў Семяноўку) і пры ваяводскай шашы ў Плянце на павароце перад пачаткам вёскі Новае Ляўкова.

Варта дадаць, што векавыя дубы растуць, між іншым, у Гайнаўцы пры вуліцах Белавежскай, Паркавай, Пілсудскага (тут на дубах прымацаваныя спецыяльныя зялёныя значкі, прызначаныя для помнікаў прыроды), Арміі Краёвай, 3 Мая, Тадэвуша Равецкага і а. Антонія Дзевятоўскага. **(яц)**

## У Беластоку будуюць камунальныя кватэры

У Беластоку, як нідзе ў іншым горадзе ў Польшчы, пабудавалі многа камунальных меншых і большых па плошчы кватэр. Кватэры тут велічынёю ад 23 да 73 квадратных метраў жылплошчы ў добрым стандарце. Запатрабаванне на камунальныя кватэры ў ваяводскай метраполіі вялікае.

Зараз іх будуюць пры вуліцы Каменскага на пасёлку Бацечкі. Тут ставяць два шматсямейныя будынкі на 113 кватэр. Пры новых блоках будуць стаянкі для аўтамабіляў — на 48 месцаў ды пад адным з будынкаў падземны гараж на 65 месцаў для прыватных аўтамашын.

Варта дадаць, што зараз Камунальнае таварыства сацыяльнага будаўніцтва ў Беластоку ўжо мае 49 прыгожых жыллёвых будынкаў і ў іх 2,5 тыс. кватэр. **(яц)**

## НАШЫ карэспандэнты

# 05.04 — 11.04

**(22.03. — 20.04.)** Хопіць рашучасці і волі, ажыццявіш уласныя задумы. 7-9.04. — за што возьмешся, будзе стрэлам у дзясятку. Але 4-10.04. будзеш усім дзейнічаць на нервы. Твае ідэі будуць проста фантастычныя. Запал да працы і энтузіязм, вынікі могуць быць нетрывалыя. Мноства ажыўляльнай энергіі ад сонца.

**(21.04. — 21.05.)** Калі ясна вызначыш сваю мэту, хутка яе дасягнеш. На працы ўперад і да канца; не забывай пра сям'ю і сяброў. Выдатна ў бізнесе. Новыя сувязі наладжаны 4-10.04. будуць бурлівыя і жарсныя. У пастаяннай пары спакойна і ўпэўнена. З іншымі сваякамі можа быць напружана. Абавязкова схадзі ў красавіку да лекара. Мусіш змяніць стыль жыцця.

**(22.05. — 22.06.)** Не будзе для цябе цяжкіх спраў. Вялікая энергія нават на шалёныя задумы. Будзеш цяпер атракцыйны і прывабны. Мноства спакус. На працы навала абавязкаў і спраў аж да канца месяца. Твая краса і мілата адкрыюць перад табою ўсе дзверы. З 11 (да 13.04) не згубі сямейнай памяткі. Задбай аб дыету.

**(22.06. — 23.07.)** Будзеш прыкладам працавітасці і сумленнасці. Калі хочаш астацца адзін, не выходзь з хаты. Многа нагод да наладжвання кантактаў. Магчымы флірт які будзе ўступам да новай сувязі. Пары, якія гатовыя на шлюб, зробяць гэты крок. Фінансы крыху будуць кульгаць увесь месяц; не зайздросць працавітым і паспяховым. Будзеш крыху слабейшы, але не пазбягай руху.

**(24.07. — 23.08.)** Кожны дзень прынясе новыя выклікі і шанцы. Не дамаўляйся з кімсьці, хто табе не падабаецца. 7-9.04. файныя рандэву. Многа энергіі. Жыць будзеш інтэнсіўна, на ўсю катушку. Ільвы з I дэкады 5-10.04. могуць захліснуцца свабодай і лішне рызыкнуць. У кантактах будзь тактычным і дыпламатычным. Праблемы на працы хутка мінуць, ужо 11.04. усё будзеш мець пад кантролем. Не шалей з выдаткамі. Хобі можа стаць крыніцай твайго даходу.

**(24.08. — 23.09.)** Не шкадуй часу на падарожжы і навуку. Прыйшоў час змяніць працу ці заснаваць свой бізнес. Зоркі сцішаць эмоцыі і палагодзяць страхі. Рамантызм і нясмеласць. Захочацца гасцям цябе наведаць. На працы дзейнічай смела; поспех і лепшая будучыня. Калі ты з II дэкады, не адкідвай абучэнняў, курсаў, — могуць стаць крокам да лепшай пасады. 4-5.04. не бярыся за важнае. 6-8.04. трапныя рашэнні і прадбачванне намераў іншых. 7-9.04. размаўляй з шэфам.

**(24.09. — 23.10.)** Твае здольнасці і дасягненні ўрэшце будуць убачаны. 7-9.04. выйдзеш пераможцам з цяжкай і небяспечнай сітуацыі. З 11.04. умацуеш сувязі з далейшай і бліжэйшай раднёй. Не будзеш сядзець ціха. Упарадкуй дакументы, бяры на сябе дадатковыя заняткі ў фірме, што заўважыць шэф. Адмоўся ад салодкага. 4-5.04. не купляй зёлак ані лекаў ад неправераных прадаўцоў, не ідзі да экстрасэнсаў і лекараў, якія хутчэй не праверацьтваёй нямогласці.

**(24.10. — 22.11.)** Поспехі і прызнанне. Адчуеш імпульс да змен. Вакол поўна прыязных людзей і разумных дарадчыкаў. Вера ў сябе — палова поспеху. Распалі агонь у пары асабліва 4-10.04. Для блізкіх будзеш як анёл. 6-9.04. асабліва мілыя сустрэчы з сябрамі. У працу заангажуешся з усіх сіл, хаця вынікі будуць не заўсёды такія, якіх чакаеш. Калі хочаш змен, добра скалькулюй, не спалі за сабой мастоў (асабліва 4-10.04.). Можаш сустрэць асобу, якая добра дараіць табе ў праве ці фінансах.

**(23.11. — 22.12.)** Адкрыешся на свет і пазнаеш свае магчымасці. 5.04. не павер у ману. Да 10.04. аформіш вельмі важную справу ва ўстанове ці судзе. 7-9.04. заляціць табе ў галаву задума, якая прынясе вялікія грошы. У пары язда без трыманкі. Увесь месяц на працы лёгка. Спрыяльныя сітуацыі, зычлівыя людзі, павышэнне, добрая каса (за твой талент ці таленты іншых). Аптымізм і ўсмешка.

**(23.12. — 20.01.)** Давер іншых, ад якіх многа залежыць. Але 7-9.04. не выцягвай спраў з мінулага. Атрымаеш тое, аб чым здаўна марыш. У пары кінь прэтэнзіі. 6-9.04. увойдзеш у зусім іншую кампанію. Кар'ера будзе каціцца старой каляёй. Разгрузі стрэс спортам.

**(21.01. — 19.02.)** Сябры не падвядуць, а каханне цябе само знойдзе. Але 6-10.04. не правакуй спрэчак і канфліктаў. Адвага, каб рабіць тое, што хочаш. Але не пераборшч. Запрагнеш стабілізацыі ў пачуццях. Трымайся здалёк ад плётак і інтрыг. На працы паслушэнства і прызнанне. Шанцы, каб парваць з кепскімі звычкамі і стылем жыцця. Вадалей з I дэкады: схадзі да лекара з ціскам і сэрцам.

**(20.02. — 21.03.)** Паставіш на сваім. Але не бяры ўсяго напавер. 4-5.04. не ляпні чаго, не нарабі сораму! Планы парабі да Вялікадня. 7-9.04. цікавыя прапановы на рабоце. Развінеш мастацкія захапленні Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі. У любові — як на гайданцы. 4-10.04. — вір вельмі важных і значных здарэнняў. 6-8.04. знакамітыя задумы на вырашэнне старых праблем. Больш варушыся.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. амаль Пружаны каля... Пружан, 2. лекар, 3. аўстрыйская сталіца, 4. круглая неглыбокая пасудзіна або частка шкілета чалавека, 5. здольнасць чалавека лагічна і творча думаць, 6. збудаванне ў кухні або ў ліцейным заводзе, 7. збудаванне для размолу збожжа, 8. танцоўшчыца, 9. яўрэй, 10. між ваяводствам і гмінай, 11. роў, лагчына, 12. спадарожнік у сонечны дзень або месячную ноч, 13. паласаты афрыканскі дзікі конь, 14. чало, 15. 3,14, 16. рытуальная аперацыя на нованароджаным яўрэі, 17. шкодны Белавежскай пушчы жучок, 18. „хітрая" драпежная жывёліна сямейства сабачых.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | | | | | | 3 | | 4 | | | 5 | 6 |
| 7 | | | | | | | | 8 | | | | | 9 | | |
| | | | | 10 | | | | | | | 11 | | | | |
| 12 | | | | 13 | | | 14 | | | | 15 | | | 16 | |
| | | | | | | | | | 17 | 18 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Ліхтар, тры, альт, найм, воля, Цюрых, Шчара, салавей, лівер, ток, сойм, Уош, улан, баян, баец, заяц, хата, кадрыля.

Рашэнне: **Хто верыць, той шчаслівы, хто сумняваецца, той мудры**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Архангел Гаўрыіл

**Санітарныя абмежаванні прытармазілі шмат руху не толькі ў нашай краіне. Вось і мне няма як адправіцца ў нейкае рэальнае падарожжа па нашым староннi, таму падамся ў падарожжа віртуальнае, у вельмі сівую даўніну ды за трыдзевяць зямель. Да вытокаў нашай цывілізацыі, у Месапатамію. Паводле Біблії 5266 гадоў таму вядомую тады зямлю заліў сусветны патоп...**

Калі Ною споўнілася шэсцьсот гадоў, даведаўся ён пра надыходзячы сусветны патоп. Прыступіў ён да будовы каўчэга трысталокцевай даўжыні і пяцідзясяцілокцевай шырыні, у тры паверхі, падзеленыя на мноства келій. Ці такое штосьці было яму пад сілу? Некаторыя тэалагічныя легенды паведамляюць, што ў Ноя, для рэалізацыі такога аграмаднага праекта, пераўвасобіўся архангел Гаўрыіл...

Наша традыцыйнае рэлігійнае навучанне паведамляе нас, што архангел Гаўрыіл быў галоўным персанажам Благавешчання. Акурат мінула каталіцкае Звеставанне, набліжаецца праваслаўнае Дабравешчанне, таму і нагода пазнаёміцца з гэтай неардынарнай постацццю.

Архангел Гаўрыіл згадваецца ў восьмым і дзявятым раздзелах старазапаветнай біблейскай кнігі Данііла, дзе ён тлумачыць праноку пабачаны сон і паведамляе пра час трывання палону. У дзясятым раздзеле: „Узнёс я свой зрок і пабачыў мужа ў ільняной вопратцы перавязанай залатым поясам. Яго цела было як ювелірны камень, яго твар зіхацеў як маланка, а вочы зззялі агнём. Ягоныя рукі і ногі блішчэлі як паліраваная бронза, а ягоны голас быў як гул мнагалюднага тлуму. Але толькі я адзін, Данііл, гэта бачыў, а людзі, якія былі са мною, не бачылі нічога, але пераляканіся, паўцякалі і пахаваліся. Я страціў сілы, а мой твар змяніўся да непазнавальнасці. Калі я пачуў ягоны голас, упаў тварам на зямлю. Тады рука дакранулася да мяне і падняла мяне на калені і на рукі; я ўсё дрыжаў...”

Пазней, ужо ў новазапаветным Евангеллі, ён з'яўляецца святару Захарыю і паведамляе, што народзіцца яму сын Іаан — Іаан Хрысціцель. Евангелле ад Лукі: „Анёл Гасподні паказаўся яму, стаўшы направа ад ахвярнага алтара. Калі Захарыя пабачыў яго, пералякаўся і збянтэжыўся. Але анёл сказаў яму: — Не бойся, Захарыя. Бог выслухаў тваю малітву і твая жонка Елізавета народзіць табе сына, назавеш яго Іаанам. Будзеш радавацца і весяліцца і шмат хто будзе рады яго нараджэнню. Ён будзе вялікім перад Госпадам. Ён не будзе піць віна ні моцных напояў, з роду будзе ён напоўнены Святым Духам... Я Гаўрыіл пасланы Богам данесці табе гэтую навіну...”

Ну і галоўнае — шэсць месяцаў пазней дабравесціць ён Марыю, дачку Якіма і Анны, што і яна народзіць сына і назаве яго Ісусам...

Гэта не ўсё — архангел Гаўрыіл завітае з ходам часу і ў іншую тэалагічную літаратуру. Ён, паводле некаторых легенд, будзе разглядаецца як элемент прыроды, асацыяваны з золатам, з вогненным колерам. Ён з агню, а архангел Міхаіл са снегу, таму і з золатам асацыяцыя, а Міхаіла з серабром. А зноў іншыя тэолагі асацыявалі Міхаіла з сонцам, а Гаўрыіла з месяцам...

Бо адкуль жа ўзяліся ў нас тыя анголы? У хрысціянства перакачавалі яны з яўрэйскага Старога Запавету. Ды і ў Старым Запавеце з'явіліся яны асцярожна, ананімна, у Майсеевых кнігах згадваецца пра іх вельмі агульна. Іх арганізаванасць і іерархія ў старазапаветных падзеях з'явіліся пазней, калі яўрэі былі выгнаны ў вавілонскае бежанства і там прысвоілі больш разбудаваную касмалогію Месапатаміі і, у выніку, і тэалагічныя ўяўленні. У Нябёсы ўзлятаюць архангелы, херувімы, серафімы, ад чарговых пакаленняў прарокаў і тэолагаў атрымліваюць яны раней не згадваныя імёны...


Гаўрыіл і Марыя


Гаўрыіл і Магамет

Гаўрыіл з'явіцца ў рабочай вопратцы Майсею і навучыць яго рабіць сямісвечнік. Як усе анёлы, ён мае крылы і ў іх два ўзмахі аблятае ўвесь свет; архангел Міхаіл робіць гэта за адзін узмах.

У яўрэйскай і хрысціянскай легендарнай літаратуры архангел Гаўрыіл займае ў іерархіі другое месца за архангелам Міхаілам. Калі апошні займаецца ў прынцыпе нябеснымі справамі, то Гаўрыіл даглядае справы зямныя, хаця і ў Нябёсах падлягаюць яму драконы, рай і херувімы. А на зямлі ён дзейнічае як упаўнаважаны самім Богам. Вось, паводле легенд, пасля наведвання Аўраама з арханёламі Міхаілам і Рафаілам Гаўрыіл падаецца разбурыць Садом і ўратаваць Лота. Калі рабіні фараонавай дачкі хацелі намовіць яе да адмовы ратавання Майсея, Гаўрыіл пабіў іх. У час жаніцьбы Саламона з адной з фараонавых дачок Гаўрыіл паставіў у мора посах, вакол якога збіраліся водарасці, ад якіх утварылася выспа і на ёй быў заснаваны Рым...

Больш багатыя мусульманскія легенды. Гаўрыіл перадаў Магамету Каран. У Каране, пад іменем Джыбрыл, Гаўрыіл згадваецца двойчы: у 97-м і 98-м аятах другой суры і ў 4-м аяце 66-й суры. Гаўрыіл можа непасрэдна кантактавацца з Богам — ён пасрэднікам між Алахам і Магаметам. Ён прымаў удзел у стварэнні Адама — сабраў гліну, з якой пасля было злеплена Адамава цела. Пасля выгнання прашчураў з раю Гаўрыіл злітаваўся над імі — даў ім невялікі мяшок пшаніцы і навучыў вырошчваць яе. Падарыў ён таксама Адаму вала, каб той мог узрыхляць зямлю. Ён таксама навучыў Адама красаць агонь. Калі Гаўрыіл з'явіўся ў Садом, ён дакрануўся да яго жыхароў крыламі і яны страцілі зрок. А пасля тымі ж крыламі ўзняў горад уверх, перавярнуў яго і ўдарыў аб зямлю.

Гаўрыіл прыязна адносіўся да Аўраама. Калі Хамаў унук Німрод, карыстаючыся катапультам, выкінуў патрыярха Аўраама ў палаючую печ, Гаўрыіл ухапіў яго ў паветры і выратаваў. Кім жа быў той Німрод? А быў гэта неўтаймаваны гарэзнік, першы паляўнічы, ён першы стаў спажываць мяса. Німрод унаследаваў скураную вопратку, пашытую Богам Адаму і Еве, і таму перад ім пакорліва станавіліся жывёлы і ён лёгка ўпалёўваў іх. З ходам часу Німрод стаў гарачым ідалапаклоннікам, стаў праследаваць праведнага Аўраама, захацеў яго спаліць вышэйзгаданым чынам. А пасля згінуў ён з рук Ісава, які таксама быў гарачым паляўнічым і канкурэнтам Німрода за паляўнічыя трафеі...

Іншая легенда падае, што Німрод выклікаў Аўраама на бітву. Сабраў ён агромнае войска і быў ашарашаны, пабачыўшы, што Аўраам выйшаў на бой сам. Але тады ўзнялася хмара камароў і прымусіла Німродавых ваякаў да ўцёкаў. Німрод заўпарціўся дабрацца да Аўраамавага Бога, таму рашыў пабудаваць высокую вежу, аднак вежа зваліласа і многія людзі ад гэтага патрацілі мову — гэта іншы варыянт легенды пра Вавілонскае стоўпатварэнне...

Але гэтая няўдача не спыніла Німрода перад ахвотай пранікнуць у неба. Ён будуе скрыню і да чатырох яе вуглоў прывязвае ўскормленых на мясе арлоў, а яшчэ вышэй прывязвае кавалкі мяса. Тыя арлы рванулся да прынады, узносячы ўгару скрыню з Німродам. Углядаючыся то ў верхнюю, то ў ніжнюю адтуліну ў скрыні, Німрод арыентаваўся, як далёка ён ад зямлі, і як блізка неба. Калі страціў з віду зямлю, выстраліў з лука некалькі стрэл у напрамку неба. Архангел Гаўрыіл перахапіў тыя стрэлы і памазаў іх крывёю; Німрод падумаў, што ён раніў Аўраамавага Бога...

Архангел Гаўрыіл таксама памагае Майсею расправіцца з веліканам Огам. Ог таксама не ладзіўся з Аўраамам. І з Майсеем, да якога з'яўляецца Гаўрыіл з паведамленнем, што Ог трапіў ва ўласную пастку і з'явілася нагода пакончыць са зладнем. А было так, што Ог узняў велізарную гару над галавою і пагражаў скінуць яе на Майсеевых яўрэяў і пакончыць з імі. Але надляцела саранча і падзіравіла тую гару так, што яна абвалілася Огу на шыю. Огу сталі расці зубы, якія не дазволілі скінуць глыбу з шыі. Майсей схапіў сякеру, падскочыў і зраніў Ога ў лытку; той абваліўся на зямлю...

Яшчэ пра Ога: дзякуючы свайму велізарнаму росту Ог уратаваўся ад патопу, прысеўшы на прыступцы Ноевага каўчэга; Ной карміў яго. За гэта Ог выказаў удзячнасць Ною і абавязаўся быць ягоным рабом. А пазней Огу спадабалася Аўраамава жонка Сара і ён захацеў пагубіць Аўраама, каб пасля з Сарай ажаніцца, але за той злачынны план Огу было суджана загінуць з рук Аўраамавых нашчадкаў. Да таго было яму суджана за кару і доўга жыць, каб тых нашчадкаў Аўраама і Сары пабачыць.

Гаўрыіл мае ўводзіць праведнікаў у рай. Ён, паводле некаторых легенд, мае быць тым вяшчальнікам, які задзьме ў трубу будзячую нябожчыкаў на Страшны суд... А хто ведае, як далёка падарожжа рэальнае ад віртуальнага...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

ISSN 0546-1960